А беларуская мова вельмі блізкая да рускай і ў гэтым — у дзеяслоўных формах.

Вядома, выяўленчыя якасці беларускага дзеяслова ўмеў выкарыстоўваць не адзін К. Чорны. Дакладней будзе сказаць, што вучыўся гэтаму ён у Я. Купалы і Я. Коласа. Але затое і ў К. Чорнага было і ёсць чаму павучыцца другім нашым празаікам.

* * *

Талент — толькі інструмент, які дорыць чалавеку прырода. «Наладжвае» гэты інструмент, прымушае яго гучаць, фармуе талент — грамадскае жыццё, час, эпоха.

Калі творчыя індывідуальнасці беларускіх савецкіх пісьменнікаў 20-30-х гадоў складваліся ва ўмовах і пад уздзеяннем рэвалюцыйнай ломкі старых форм жыцця і сацыялістычнай перабудовы грамадства, то новае пакаленне беларускіх пісьменнікаў, якое з'яўляецца сённяшнім днём нашай прозы, вырастала пад уздзеяннем гераічнага подзвігу народа ў гады Айчыннай вайны.

Подзвіг савецкіх людзей у час вайны знайшоў сваё адлюстраванне і ў творчасці пісьменнікаў старэйшага пакалення, пры гэтым неяк па-новаму раскрылася творчая індывідуальнасць і Я. Коласа, і К. Чорнага, і К. Крапівы, і М. Лынькова. Паўней выявіўся талент публіцыста і сатырыка ў творах К. Чорнага. М. Лынькоў вырас у раманіста-эпіка. І нават тэматычна не звязаная з падзеямі Айчыннай вайны трэцяя кніга коласаўскай трылогіі «На ростанях» нясе на сабе водбліск нядаўніх грозных падзей: пасля вялікіх ваенных выпрабаванняў, якія вытрымала краіна, погляд пісьменніка на рэвалюцыйнае мінулае народа не мог не ўзбагаціцца, не мог не паглыбіцца. Тое ж самае можна сказаць і пра гісторыка-рэвалюцыйны раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».

Але асаблівае значэнне выпрабаванні і гераіка Айчыннай вайны мелі для станаўлення таленту празаікаў малодшага пакалення, жыццёвая сталасць якога пачыналася на ваенных дарогах. Патрэба расказаць аб савецкіх людзях, якія прынялі на свае плечы найвялікшы цяжар вайны,— вось што зрабіла пісьменнікамі і І. Шамякіна, і Я. Брыля, і І. Мележа, і Ул. Карпава, і Ул. Шахаўца, і І. Навуменку, і А. Асіпенку, і І. Сіўцова і многіх іншых. Не выпадкова амаль усе гэтыя пісьменнікі пачыналі з твораў аб вайне. Некаторыя з гэтых твораў прагучалі свежа і цікава і адразу заваявалі папулярнасць у чытача — «Глыбокая плынь», «Нёманскія казакі», «Мінскі напрамак» і г. д. У маладых пісьменнікаў не было яшчэ належнага літаратурнага вопыту, але жыццёвы іх вопыт быў багаты і яркі, і пачуццё сувязі з народам і яго лёсам — моцнае. Гэта і надавала сілу нават першым іх творам.

І вельмі паказальна, што, нягледзячы на няспеласць многіх пасляваенных твораў маладых пісьменнікаў, агульны ідэйны і мастацкі ўзровень творчасці новага пакалення празаікаў быў вышэйшы за ўзровень «маладнякоўскай» прозы першай палавіны 20-х гадоў.

Адчуваецца тут багацце традыцый і перш за ўсё — сталасць беларускай савецкай прозы, яе творчага метаду. Вядома, кожнае новае пакаленне пісьменнікаў павінна авалодваць творчымі прынцыпамі літаратуры сацыялістычнага рэалізма, але адна справа, калі творчы метад літаратуры яшчэ толькі складваецца, і другая — калі за спіной вопыт Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, Э. Самуйлёнка, вопыт усёй савецкай прозы.

Адзначаючы ўсё гэта, мы павінны, аднак, улічваць і тое, што адпаведна вырас і чытач, вельмі выраслі яго патрабаванні да літаратуры. Часта прыходзіцца чуць ад людзей старэйшых, што той ці іншы твор «маладнякоўцаў» карыстаўся ў свой час значнай папулярнасцю. Але, перачытваючы многія з папулярных у 20-я гады твораў, здзіўляешся: як магла захапляць такая наіўная кніжнасць, правінцыяльнае перайманне Дастаеўскага. Сёння такія творы наўрад ці мелі б шырокага чытача. Патрабаванні чытачоў да літаратуры цяпер выраслі настолькі, што пасляваенная проза наша, больш спелая і высокая ў параўнанні з «маладнякоўскай», далёка не заўсёды задавальняе іх.

Пад уздзеяннем тых зрухаў у жыцці, якія былі звязаны з пастановамі партыі апошніх год, з XX з’ездам, літаратура зрабіла значны крок наперад па шляху сацыялістычнага рэалізма. Пераадольваючы тэндэнцыі бесканфліктнасці і дагматызма ў разуменні жыцця, беларуская літаратура пачала больш поўна выкарыстоўваць тыя шырокія творчыя магчымасці, якія закладзены ў самім метадзе савецкай літаратуры.

І як вынік гэтага — ярчэй і паўней раскрыліся і творчыя індывідуальнасці нашых пісьменнікаў, у прыватнасці — празаікаў. Значна выраслі Я. Скрыган, А. Кулакоўскі, І. Мележ, А. Чарнышэвіч, больш сталым і моцным стаў голас І. Шамякіна, ярка раскрыўся талент Я. Брыля і г. д.

У таленце кожнага з названых і не названых тут беларускіх празаікаў можна знайсці моцныя і слабыя рысы і якасці. Але мы спынімся на разглядзе творчасці толькі некалькіх нашых празаікаў.

Тое, што нават маладыя пісьменнікі амаль адразу ўзяліся за вялікія творы аб Айчыннай вайне і што іменна раман і аповесць аб нядаўніх падзеях былі асабліва папулярнымі ў чытача,— не выпадкова. І ў чытача, і ў саміх пісьменнікаў была велізарная патрэба неяк асэнсаваць нядаўна перажытае, глыбей адчуць і зразумець

гістарычны сэнс нялёгкай барацьбы і нялёгкай, але тым больш радаснай перамогі над смяртэльным ворагам, які замахнуўся на сацыялістычныя заваёвы народа, на самое яго жыццё. Гэтае імкненне асэнсаваць бачанае і перажытае было аднолькава моцным і ў чытача, і ў пісьменніка.

Усякі чалавек, колькі б ён ні перажыў і чаго б ні пабачыў за час вайны, быў сведкам толькі нязначнай часцінкі суровых падзей, і ўсякага павінна было цікавіць: а што ў гэты час рабілася ў «партызанскім краі» ці, наадварот,— на фронце, як жыў і працаваў савецкі тыл «далёка ад Масквы» і г. д. У гэтых умовах нават няспелыя ў мастацкіх адносінах, апісальныя, але багатыя і праўдзівыя па матэрыялу творы чыталіся і перачытваліся: тое, што не. ўмеў ярка намаляваць раманіст ці мемуарыст, дамалёўваў сам чытач, адштурхоўваючыся ад асобных праўдзівых рысак і дэталяў, якія ён знаходзіў у кнізе. Вельмі яркі, «свежы» яшчэ жыццёвы вопыт чытача актыўна ўзаемадзейнічаў з вопытам аўтарскім.

Можна сабе ўявіць, як павінен быў успрыняць гэты чытач твор, у якім ён знайшоў не асобныя замалёўкі, не бессюжэтнае апісанне ваенных уражанняў, а стройнае і дынамічнае апавяданне аб тыповым ваенным лёсе беларускай партызанскай сям'і. А іменна такім быў раман І. Шамякіна «Глыбокая плынь» — стройны па сюжэту, просты, лёгкі, цікавы па апавяданню. І твор гэты быў з вялікай прыхільнасцю сустрэты чытачом, нягледзячы на ўсе слабасці рамана: неглыбокую псіхалагічную распрацоўку характараў, беднасць моўных сродкаў.

Ужо ў гэтым першым рамане І. Шамякіна выявіліся некаторыя моцныя бакі таленту пісьменніка. Талент раманіста, якім безумоўна валодае І. Шамякін,— гэта перш за ўсё здольнасць бачыць чалавека ў яго «грамадскай функцыі», уменне не толькі паглыбляцца ў псіхалогію чалавека, але і даваць мастацкі аналіз самога грамадскага жыцця. Намаляваўшы сям'ю Карпа Маеўскага, беларускага калгасніка-патрыёта, даволі праўдзіва раскрыўшы асабістыя, «псіхалагічныя» сувязі паміж асобнымі персанажамі, І. Шамякін паставіў сваіх герояў у настолькі тыповыя грамадскія абставіны, што за лёсам адной сям'і відаць лёс цэлага народа. Бацькоўскае шчасце Карпа Маеўскага, шчасце закаханых Тацяны і Жэнькі Лубяна, будучыня хлопчыка, якога ўсынавіла Тацяна,— усё залежыць ад зыходу барацьбы з фашызмам. Таму для герояў рамана змаганне з ворагам і асабісты лёс, асабістае жыццё — адно непадзельнае.

Сюжэтная закончанасць рамана «Глыбокая плынь» дасягаецца дзякуючы вось гэтай злітнасці асабістага лёсу герояў з вынікамі той барацьбы, якую вядзе з акупантамі савецкі народ: перамог

народ — вычарпанымі аказаліся і калізіі «асабістага» жыцця герояў.

«— Ну, дзеці, будзем будавацца»,— кажа ў канцы рамана Карп Маеўскі, і чытач адчувае: пачынаецца другое жыццё не толькі для Маеўскіх — новыя справы прыходзяць да цэлага народа, а таму і да Маеўскіх.

Гэтым мірным справам прысвечаны другі раман І. Шамякіна — «У добры час». Твор напісаны рукой больш вопытнага літаратара. Псіхалагічны партрэт старшыні калгаса, самалюбівага, гарачага Лескаўца, вобраз сціплай і гордай працаўніцы Машы, мастацкая характарыстыка Шаройкі, даволі багатыя фарбамі калгасныя пейзажы — усё гэта сведчыла аб большай, чым у рамане «Глыбокая плынь», прафесійнай літаратурнай сталасці аўтара. І мова другога рамана больш мастацкая, хоць аўтар і злоўжывае часам «газетнай» фразай.

І ўсё ж, нягледзячы на прафесійны рост пісьменніка, другі раман яго не з’явіўся такой творчай удачай, як «Глыбокая плынь». Пранікненне, мастацкае паглыбленне ў грамадскае жыццё аказалася нязначным.

Кожнаму сёння зразумела, што ў слабасцях рамана «У добры час» вінаваты не толькі сам аўтар, але і крытыка. На кожнай сцежцы, што вяла ў глыбіню грамадскага жыцця, яна запальвала «чырвонае святло»: «Не тыпова!». Мы добра памятаем, якія вымовы рабілі крытыкі І. Шамякіну за супярэчлівую натуру Максіма Лескаўца. «Дзе аўтар бачыў, каб такога чалавека рабілі старшынёй калгаса?» — вельмі горача і не вельмі шчыра абураліся некаторыя крытыкі. Але ж ад таго, што ўстаноўлены аб’ектыўныя прычыны, якія перашкодзілі пісьменніку праўдзіва намаляваць жыццё вёскі, смела і да канца раскрыць супярэчлівую логіку характара Максіма Лескаўца,— ад гэтага, нажаль, твор не робіцца лепшым.

«Крыніцы» — трэці раман І. Шамякіна — адрозніваецца ўжо больш смелым, рашучым зваротам да актуальных грамадскіх праблем. І іменна на гэтым шляху раманіста можа сустрэць найбольшы творчы поспех. Характэрна, што талент І. Шамякіна асабліва поўна раскрываецца, калі ён малюе чалавека ў шырокіх грамадскіх сувязях: чым больш значныя грамадскія пытанні хвалююць пісьменніка, тым ярчэй праяўляецца і яго псіхалагічнае майстэрства. Чым вабіць паэтычны вобраз сельскага ўрача Наташы з рамана «Крыніцы»? Яе адносінамі да закаханых у яе Сяргея і Лемяшэвіча? І гэтым. Але больш за ўсё адносінамі яе, самаадданай жанчыны з нялёгкай біяграфіяй, да сваёй справы, а яе справа — людзі, іх няшчасці і радасці. Адбярыце ўсё гэта, няхай застануцца толькі асабістыя дачыненні гераіні да Сяргея і Лемяшэвіча, і мастацкі вобраз страціць унутранае святло.

Індывідуальныя псіхалагічныя якасці героя рамана «Крыніцы» Лемяшэвіча больш за ўсё праяўляюцца праз яго адносіны да свайго партыйнага і грамадскага абавязку: праз канфлікт з Арэшкіным, Бародкай, Махначом. Само пачуццё кахання да Наташы ўмацоўвае ў ім грамадзянскую прынцыповасць, падымае пачуццё адказнасці перад справай і людзьмі. Самаадданая, любімая ўсімі, Наташа становіцца яго «сумленнем», прыкладам для яго. Мы зусім не хочам сказаць, што пачуццё кахання і наогул «асабістыя справы» людзей у І. Шамякіна — на другім плане і што гэта — нешта другараднае для мастака. Зусім наадварот. Але размова ідзе аб тым, што і пачуццё кахання і іншыя чалавечыя пачуцці І. Шамякін раскрывае асабліва поўна і ярка, калі ён паказвае чалавека як «грамадскага чалавека». Калі мы сцвярджаем, што І. Шамякін — раманіст па таленту, дык маем на ўвазе іменна гэта: схільнасць і ўменне бачыць і паказваць чалавека ва ўсёй складанасці яго грамадскіх сувязей. Мастацкая пераканальнасць вобразаў Арэшкіна, Бародкі, Махнача іменна ў тым, што пісьменнік падышоў да іх як да грамадскай з'явы. Праўда, усе гэтыя вобразы маглі быць паглыблены, але іменна ў тым жа напрамку: праз больш рашучае раскрыццё іх грамадска-псіхалагічнай сутнасці.

І раман «Крыніцы» і аповесці «Непаўторная вясна» і «Начныя зарніцы» сведчаць, што найбольшых поспехаў І. Шамякін дасягае там, дзе ён паказвае чалавека не толькі ва ўсёй «непаўторнасці» яго інтымнейшых перажыванняў і пачуццяў, але і ва ўсім багацці яго грамадскіх сувязей. «Крыніцы» — раман не пазбаўлены сур'ёзных недахопаў (элементы ілюстрацыйнасці ў сюжэце, недастатковае багацце моўных сродкаў). І усё ж у нашай пасляваеннай прозе мала твораў, дзе б герой жыў такімі значнымі і сапраўды надзённымі грамадскімі пытаннямі, якімі жыве Лемяшэвіч. Кола яго інтарэсаў выходзіць далёка за межы школы. У рамане «Крыніцы» І. Шамякін развівае лепшыя традыцыі паказу чалавека ў яго грамадскім асяроддзі, у прыватнасці — традыцыі коласаўскай трылогіі «На ростанях».

Чытаючы творы І. Шамякіна, нельга не адчуць, што пісьменнік валодае добрым талентам апавядальніка. А гэта вартасць не малая, асабліва калі ўлічваць, што беларуская проза развівалася і развіваецца, пераадольваючы непазбежны грэх маладосці літаратуры — апісальнасць.

І. Шамякін не навязвае чытачу сваіх герояў: вам самім неяк прыемна і радасна з імі сустрэцца, прайсці разам па жыццёвых дарогах, разам з імі падумаць і пахваляваца.

Але творы І. Шамякіна сведчаць і аб тым, што талент яго патрабуе яшчэ шліфоўкі: яму неабходна дабівацца большай маляўнічасці карцін.

Мастацкая літаратура, па трапнаму вызначэнню М. Горкага,— «маляванне словам». Аднак нельга назваць «маляваннем словам» такі, напрыклад, тэкст з аповесці «Непаўторная вясна»:

«Мінула восень і зіма. Для Пятра час гэты праляцеў хутчэй і весялей, чым для Сашы. Ён зноў ездзіў на практыку, самую адказную, пераддыпломную, і ездзіў у цікавае месца — у толькі што вызваленую Заходнюю Беларусь, амаль на самую мяжу, дзе будаваўся ладны ўчастак важнай дарогі. Паездка была ганаровая — не ўсіх туды паслалі, толькі траіх, самых надзейных і актыўных камсамольцаў. Там усё было незвычайнае: людзі, якія пражылі дваццаць год у няволі, вечарынкі моладзі». Размова ідзе не аб тым, што іменна гэту мясціну трэба было разгарнуць у малюнак: магчыма, агульная кампазіцыя твора і не патрабавала гэтага. Але такіх мясцін у творах І. Шамякіна, нажаль, замнога. Справа не ў нейкіх спецыяльных выяўленчых сродках (параўнаннях, метафарах і г. д.). Іх можа і не быць. Прастата стылю — таксама адзнака майстэрства. І яна — вышэйшая адзнака майстэрства, калі прастата гэтая — вынік стараннай, «чэхаўскай» працы над словам. Але ж ёсць прастата, якая ідзе ад паспешлівасці і якая мяжуе з беднасцю мовы і стылю.

Івану Шамякіну і, вядома, не яму аднаму, трэба смялей звяртацца да багаццяў жывой народнай мовы, больш старанна працаваць над словам, фразай. Паказальна, што нашы пісьменнікі, якія прыйшлі ў літаратуру пасля вайны, як бы страцілі цікавасць да ўсякіх спрэчак аб мове. Калі і выступаюць у друку па гэтых пытаннях, то толькі старэйшыя пісьменнікі. А між тым у 20-30-я гады канкрэтныя размовы аб мове, аб адным нават слове на старонках часопісаў і газет вяліся пастаянна. Я. Колас, К. Чорны, К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Глебка і іншыя нашы вядомыя пісьменнікі лічылі сваім важнейшым абавязкам сачыць, каб беларуская літаратурная мова вырастала на аснове ўсіх багаццяў пароднай мовы, каб не звужаліся стылістычныя магчымасці беларускай мовы.

Літаратурная беларуская мова за апошнія дзесяцігоддзі стала больш нармалізаванай, узбагацілася лексічна. І тое, што літаратурная, «кніжная» мова пачала больш адрозніваецца ад гутарковай — зусім заканамерна. Але гэта не азначае, што нармалізаваная літаратурная мова павінна быць пазбаўлена бытавых, народных і нават мясцовых фарбаў, што яна можа нагадваць «перакладную» мову. Дыстыляваная вада хоць і чыстая, але мала прыемная на смак.

Чытаючы К. Чорнага, успамінаеш Случчыну, у мове П. Галавача выразна адчуваецца каларыт Бабруйшчыны, у паэме «У зялёнай дуброве» А. Куляшоў ужывае слова «пражмо» — так называюць

падсмажаныя на агні каласкі на Магілёўшчыне. У індывідуальных стылях многіх празаікаў 30-х і асабліва 20-х гадоў выразна «праламляюцца» асаблівасці мясцовых гаворак. Можна ў гэтым бачыць адзнаку недастатковай нармалізаванасці беларускай літаратурнай мовы 20-30-х гадоў. Мясцовыя асаблівасці часам нават псавалі мову некаторых пісьменнікаў (Ц. Гартнага, напрыклад).

Але неабходна мець на ўвазе тое, што і К. Чорны, і Ц. Гартны, і П. Галавач зусім не захапляліся мясцовым этнаграфізмам, яны імкнуліся быць народнымі ў мове, і толькі.

Спецыфічна мясцовых элементаў у К. Чорнага, напрыклад, не так ужо і многа, іх можна пералічыць (дзындра, кагадзе, спрэс і яшчэ некалькі слоў). У Ц. Гартнага — значна больш, але ў цэлым і яго мова зразумелая кожнаму.

Значна важней другое: такія пісьменнікі, як Я. Колас, К. Чорны, К. Крапіва, М. Лынькоў і іншыя, добра разумеючы, што нармалізацыя мовы павінна азначаць у той жа час і шырокае ўзбагачэнне яе, імкнуліся папоўніць яе за кошт усяго лепшага, што сустракаецца ў мове народа. Вядома, развітая літаратурная мова не можа быць такой жа, як гутарковая. Але літаратурная мова павінна непасрэдна вырастаць з жывой народнай мовы — вось важнейшы прынцып, якога заўсёды прытрымліваліся нашы пісьменнікі. Прынцып гэты трэба не толькі больш паслядоўна, але і смялей праводзіць у жыццё сёння, тады радзей у нас будуць сустракацца творы, якія па мове нагадваюць пасрэдны пераклад.

І не трэба нам занадта баяцца слова «дыялектызм» — раней неабходна прыслухацца, як слова гучыць, удумацца, наколькі яно трапнае і зразумелае. У любым, самым маленькім «засеку» жывой народнай мовы можна часам знайсці буйныя зярняты народнай мудрасці і дасціпнасці. На Глусчыне, напрыклад, даводзілася чуць слова «пахатуха».

Раніцой — сям’я толькі яшчэ садзіцца снедаць — гаспадыня выглянула ў акно і незадаволена кажа:

— Бяжыць ужо — пахатуха!

Гэта пра суседку, якая толькі і ведае, што бегае па хатах: з навінамі рознымі ці пазычацца.

Хіба гэта не знаходка для мастака: адно толькі слова, а чалавек ахарактарызаваны.

У нас часам крыўдуюць на крытыку: «Усё Чорны, ды Чорны! Не могуць жа ўсе празаікі быць на яго падобнымі, гэта ж будзе азначаць збядненне літаратуры. У кожнага свая індывідуальнасць».

Пры гэтым яўна змешваюцца дзве рэчы: тое, як пісьменнік ведае народную мову, з тым, як ён выкарыстоўвае яе.

Адна справа будаваць фразу «пад Чорнага» і зусім іншае — ведаць народную мову так, як ведаў яе К. Чорны. Першае зусім не абавязкова, другое ж можна толькі вітаць.

Беднасць мовы і стылю ніяк нельга лічыць той «своеасаблівасцю», якую трэба ахоўваць. Своеасаблівасць — гэта багацце — багацце думак, ідэй, мовы.

Моцны, многаабяцаючы талент у А. Кулакоўскага. Праўда, пісьменнік гэты да канца яшчэ не сфармаваўся.

Ужо раннія творы яго вылучаліся добрай увагай да бытавой дэталі. Але якасць гэтая часта ўспрыймалася як недахоп. Зусім заслужана, на нашу думку, пісьменніка папракалі ў прыземленасці, бытавізме: творам яго (у тым ліку і раману «Расстаемся ненадоўга») не ставала закончанай мастацкай ідэі, якая б падпарадкоўвала сабе, пранізвала кожную дэталь. Кожная сцэнка, вобраз у рамане «Расстаемся ненадоўга» асвятляюцца як бы з дапамогай асобнага «юпітэра», а не з аднаго пункту, і таму перад чытачом — мноства праўдзівых падрабязнасцей, але няма адной закончанай мастацкай карціны жыцця.

Пасля з’явіліся апавяданні, якія сведчылі аб большым набліжэнні пісьменніка да жыцця народа. «Не з таго боку», «Гарэў аганёк», «Незабыўнае рэха» напісаны рукой чалавека, якога хвалююць складаныя праблемы грамадскага жыцця. І цяпер, калі ў аснове твора ёсць значная і закончаная ідэя, апавяданні А. Кулакоўскага набываюць большую мастацкую завершанасць і цэласнасць.

Яшчэ больш вырасла майстэрства А. Кулакоўскага ў такіх творах, як «Кватаранты», «Дванаццаты, жорсткі», «Нявестка».

Паміж творамі, што ўвайшлі ў зборнік «Незабыўнае рэха», і ранейшымі творамі пісьменніка ляжыцца той рубеж, які аддзяляе літаратурную маладосць ад пачатку мастацкай сталасці. Не ўсё, вядома, і раней было слабым у А. Кулакоўскага. Яго раман «Расстаемся ненадоўга» мае пэўныя вартасці. Пра аповесць жа «Нявестка» можна сказаць, што твораў, такіх багатых па зместу, яркіх па мастацкай дэталі, гучных па мове, завершаных у мастацкіх адносінах, у нашай прозе не так ужо і многа.

А. Кулакоўскі ўмее бачыць быт, які акружае чалавека, які складае важную частку яго жыцця. Пісьменнік пераносіць жыццёвы факт у свой твор, як разумны садавод перасаджвае дрэва, стараючыся не пашкодзіць іменна дробныя карэньчыкі,— без іх дрэва не прыжывецца.

Без бытавой дэталі, падрабязнасці ў творы няма адчування рэальнага жыцця. Аднак сама па сабе бытавая дэталь, якой бы яна сакавітай ні была, яшчэ мала значыць. Важна, каб яна «працавала» на ідэю твора, была неабходнай часткай цэлага.

Перш за ўсё дэталь павінна быць характэрнай. Іменна такой з'яўляецца бытавая дэталь у апошніх творах А. Кулакоўскага.

Вобраз Данілы ў «Нявестцы» ствараецца з дапамогай дэталей яркіх, характэрных. З цёплай і трохі сумнай усмешкай малюе аўтар вобраз няўдачлівага, але добрага і багатага чалавечым сумленнем Данілы. Праўда, Даніла не без «граха», ён часам можа і прыбраць нейкую дробязь, што «дрэнна ляжыць», але цяжка быць за гэта занадта строгім да Данілы, асабліва зазірнуўшы ў яго «бабылёўскую» хату — халодную і пустую. Практыцызм Данілы — знешні, вымушаны: за ім вельмі чыстая і паэтычная душа, якая засумавала па чалавечай ласцы, па «цёплай старасці».

«Калі Даніла ўпэўніўся, што сын збіраецца ажаніцца з Ларысаю, дзён два хадзіў, насунуўшы на бровы старую аўчынную вушанку. Шкада было ўсё ж такі шандыбовічавага пасагу». Ведае ж Даніла, што сын у яго не спытаецца, з кім ажаніцца, ды і сам ён не адважыцца яму раіць. Сказаць папраўдзе, яму і самому Ларыса больш да спадобы, і не «шандыбовічаў пасаг», а Ларысіна ласкавасць яму патрэбна.

А як добра характарызуе Данілу яго прагулка ў падараваных сынам кірзавых ботах праз усю вёску ў дзень, калі Віктар прыняў брыгаду!

Вось праз такія дэталі і паўстае перад чытачом вобраз Данілы — багатага на фантазію і яшчэ багацейшага на чалавечую дабрату і шчырасць.

У аповесці «Нявестка» ўсё пабудавана на быце, але бытавізма ў ёй няма. На бытавым матэрыяле, яркім, характэрным, праз жывыя мастацкія вобразы, дакладныя бытавыя дэталі А. Кулакоўскі вырашае значныя грамадскія праблемы.

Важнай адзнакай узрослага майстэрства А. Кулакоўскага з'яўляецца тое, што ён усё больш смела, ахвотна, упэўнена карыстаецца ў сваіх творах паўтонамі. У паўтонах вытрымана яго аповесць «Перад узыходам сонца» і апавяданне «Дванаццаты, жорсткі». З драматычнай стрыманасцю апавядае аўтар у аповесці «Перад узыходам сонца» аб групе савецкіх людзей (байцоў, жанчын), якія імкнуцца на ўсход, за лінію фронта. І ў найцяжэйшых умовах, калі на кожным кроку іх чакае смерць, людзі застаюцца людзьмі, у іх асяроддзі складваецца своеасаблівы быт, і ўсё гэта бачыць і паказвае пісьменнік, проста, але глыбока раскрываючы вытрымку і мужнасць савецкіх патрыётаў.

У такіх паўтонах і з такой жа ўважлівасцю апавядае А. Кулакоўскі аб жыццёвай драме прыгожай, душэўна багатай жанчыны, якая звязала свой лёс з чалавекам не злым, кампанейскім, але на дзіва пустым пры ўсёй яго «лейтанантскай» самаўпэўненасці («Дванаццаты, жорсткі»).

Жанчына сама сабе баіцца прызнацца ў сваёй памылцы, а яшчэ больш баіцца яна, каб аб нечым здагадваўся пасажыр, што едзе з імі ў адным купэ. Ёй жа ўсё яшчэ так хочацца адчуваць сябе шчаслівай жонкай і маткай... «Хоць перад чужым будзь чалавекам!» — просіць яе нясмелы погляд, але яе Валодзя проста не можа не быць самім сабой: страшэнна пустым і самаўпэўненым хамам. Праз дэталь, паўнамёк раскрывае мастак драму жанчыны, якая ўжо бачыць «жорсткую», бязлітасную праўду, але ўсё яшчэ баіцца яе, вельмі не хоча адчуваць сябе няшчаснай: яна ж так верыла, што нарадзілася для шчасця.

А. Кулакоўскі — пісьменнік з вельмі непасрэдным, эмацыянальным бачаннем свету. Самая моцная якасць таленту яго — уменне паказаць жыццё ва ўсёй яго бытавой сакавітасці і яркасці.

Нават у больш ранніх, даволі ілюстрацыйных, схематычных творах А. Кулакоўскага канкрэтныя дэталі, падрабязнасці часам вельмі жывыя, удалыя. У «Нявестцы», «Кватарантах», «Дванаццатым, жорсткім», «Перад узыходам сонца» бытавая праўда жыцця ўзнята пісьменнікам да ўзроўню праўды абагульняюча-мастацкай. І думаецца, што гэта самы плённы і шматабяцаючы для А. Кулакоўскага шлях. У названых творах няма натуралістычнага бытапісальніцтва, і разам з тым няма тут таго схематызма, ілюстрацыйнасці, што раней заўважаліся ў А. Кулакоўскага. У сапраўды мастацкім творы ідэя вырастае з рэальнага матэрыялу. Ідэю высокамастацкага твора можна параўнаць з зямным прыцяжэннем, якое нябачна ўздзейнічае на ўсё, што ёсць на паверхні. Вось такой сапраўды мастацкай ідэяй вызначаецца месца і характар кожнай падрабязнасці ў лепшых творах А. Кулакоўскага. Дасягнуў гэтага А. Кулакоўскі не адразу і не лёгка. І вельмі шкада будзе, калі няўдача з аповесцю «Дабрасельцы», у якой аўтар паграшыў супроць жыццёвай праўды, штурхне пісьменніка на стары шлях схематызму і ілюстрацыйнасці. А такая пагроза ёсць, аб гэтым сведчыць яго апавяданне «Зямелька — матка наша», надрукаванае ў «Полымі» (№ 10 за 1958 год). Каб пераадолець заганы «Дабрасельцаў», трэба ісці наперад, да сапраўдных мастацкіх абагульненняў, а не вяртацца да таго, што пісалася да «Нявесткі».

Ідэйна-мастацкі ўзровень сучаснай беларускай прозы (калі мець на ўвазе яе лепшыя творы) такі, што няма ўжо патрэбы рабіць скідкі на яе маладосць. Аб гэтым могуць сведчыць, напрыклад, творы Я. Брыля.

Калі літаратуру называць «чалавеказнаўствам», дык першая і самая адметная якасць прозы Я. Брыля — высокая культура чалавеказнаўства. У першых яго творах («Зладзеі», «Адзін дзень» і др.) можна ясна адчуць творчую вучобу ў Льва Талстога, Якуба Коласа, Балеслава Пруса. У апавяданнях «Прывал», «Галя», у апо-

весці «На Быстранцы» — перад намі толькі Брыль, але іменна тут больш за ўсё і адчуваецца, што арыгінальны і багаты талент пісьменніка «адшліфаваны» на класіцы.

Цікава адзначыць, што для чытача Я. Брыль ніколі не быў «пачынаючым» пісьменнікам: ён адразу заявіў аб сабе апавяданнямі («Марыля», «Зладзеі» і др.), якія і сёння застаюцца на ўзроўні лепшых дасягненняў нашай прозы. Магчыма, атрымалася так таму, што апавяданні гэтыя, напісаныя яшчэ да 1939 года, былі пранесены пісьменнікам праз многія гады (палону, потым партызаншчыны), адшліфаваліся і да часу іх надрукавання сталі па-сапраўднаму спелымі разам з самім мастаком.

Ужо ў зборніку «Апавяданні» (1946 г.) выявілася своеасаблівасць і багацце брылеўскага таленту. Заўважалася перш за ўсё рэдкае багацце мовы маладога празаіка. Апавяданне «Марыля» пачынаецца так:

«У багатага дзядзькіКата, без пары нарадзіўшы дзіця, памерла нявестка Марыля.

Звялі маладзіцу са свету сямейнікі. Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаежная». А сынок — яшчэ горшы. Воза сена ці дроў не мог накласці, няўдаліца, і ўсё злаваўся. А хто ж заўсёды першы пад рукой, як не жонка? І ёй даводзілася часта. Як толькі пажаніліся, дык і набіць яе не мог, пакуль не навучыўся. Свякроў была вельмі ж драпежная ў працы. Калісь нават дзяцей на полі ці градах раджала. Цяпер хадзіла згорбіўшыся і ўсё подбегам, трушком, быццам ёй горш, як усяму свету, часу не хапала. На кірмаш сядзе ехаць і то, здаецца, бегла б на возе, каб хутчэй справіцца. На добры лад, ёй ужо зусім не след было працаваць, а яна такі ўсюды трапляла. Усю малацьбу цапамі пераб’е разам з маладымі. Тады ўжо, бачыце, насмела можна пілаваць: «Я вось і то, а вы то што ж?» — Жміндзіла — хай бог крые...»[1]

«Прыслухаўшыся» да гэтага тэксту, яго інтанацый, мы выразна адчуваем: за словамі аўтара стаіць нешта большае — народная ацэнка такіх выпадкаў з сялянскага жыцця, калі зводзяць «маладзіцу са свету сямейнікі», народная ацэнка такіх злых «няўдаліц», як муж Марылі, і такіх свякрух, якім «быццам горш, як усяму свету, часу не хапае».

Здзіўляе тая лёгкасць і натуральнасць, з якой пісьменнік выкарыстоўвае фразеалагічныя багацці народнай мовы. Прыходзіцца часам чытаць творы, у якіх на кожным кроку сустрэнеш народны выраз, прыказку,— і ўсё ж цяжка пазбавіцца ад адчування, што перад табой больш-менш удалая «мазаіка» з асобных удалых народных выразаў, узятых з запісной кніжкі.

[1] Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці, 1952, стар. 149.

Не тое ў Брыля. Адчуваецца, што яго моўная палітра аснована на ўсім багацці народнай мовы. Не асобныя слоўцы, а саму сістэму народных ацэнак і ўяўленняў знаходзім мы ў яго творах.

Дзякуючы выключнаму веданню народнага асяроддзя Я. Брыль умее некалькімі словамі (часам вуснамі персанажа) даць чалавеку па-народнаму яркую, ацэначную характарыстыку. Вось як герой апавядання «Праведнікі і зладзеі», вясёлы гарапашнік Лапінка, апавядае пра знаёмых яму баптыстаў:

«Пятрусь з Навасёлак, стары кавалер, рыжы, морду быццам куры падзюбалі, заплюшчыць вочы, закапыліцца, як табакі панюхаўшы, ды толькі адзімае: «А-фу-лэ»! Гэта ён з духам святым па-замежнаму. А Раман Дуля — ух ты, у новым кажушку, грудзі ўперад, сцёгны тоўстыя, шах-шалах, халявы блішчаць, бах на калені... «Госпадзі! Ты благаваліў, о, штобы я празрэў і навучаў народы, о-о, малю цібя». А гаворыць, як той прарок, зігзагамі ўсё, лукатакамі. Таксама з духам святым. А я сабе думаю: прайдзісвет, прайдзісвет! Забыўся ўжо, колькі ад цябе дзевак паплакала? А цяпер ты празрэў і навучаеш народы...»

...Раз на гадавым зборы сяджу я ззаду, а брат Рапейка — прапаведнік, што быў у Амерыцы — эх, толькі вочы паблісквають, поўны, харошы,— «брація,— кажа,— бліжэй сюды... Я гэта за шапку ды на самую першую лаўку. Гляджу: Настуся Кукобіна, багатырка на ўсю вёску, моліцца, а сама цікуе за рэчку, каб гусі ў шкоду не ўлезлі. А пасля — эх, паляцела — а гы-ля! Ну і даваў жа ёй брат Рапейка па пер'і. Нельга, кажа, служыць адразу богу і мамоне!..»[1]

І адразу вельмі жыва малююцца вобразы і партрэты «брацieў» і вобраз самога апавядальніка — вясёлага гарбуна Лапіцкі.

Моўная самахарактарыстыка, індывідуалізацыя — важнейшы сродак стварэння чалавечых характараў у творах Я. Брыля. Брылеўскі «зямляк» Паўлюк («Мой зямляк») — увесь раскрываецца ў мове. Ён і жыве і размаўляе так, што не разбярэш, дзе праўда, а дзе выдумка, дзе мяжа паміж справамі яго і фантазіяй. Не толькі палюе на зайцоў, але і эшалоны падрывае Паўлюк з такой паэтычнай непасрэднасцю, нібы легенду творыць.

«— Нарабілі, браце, мяса,— гудзе яго прыцішаны голас,— падлажылі мы гэтую самую цацку пад рэйку і ляжым. А цёмна — хоць ты на воўка ўссядзь. Чуем пасля — ідзе. Крадзецца, браце, на пальчыках, босы, баючыся ступіць на шкло. Навучылі паршыўца хадзіць! А тут жа яму пад чэрава як гапне!.. Перакуліўся на спіну і толькі колы, як жывыя, як лапкамі перабірае, круцяцца... А вагоны

[1] Я. Брыль.: Дзеля сапраўднай радасці, 1952, стар. 171—172.

цераз галаву, цераз галаву, поныр'ю… Падняўся вэрлах, піск — якраз, як гэта пацукоў недзе ў скрыні напрэш…»

Эмацыянальнасць — характэрная прыкмета стылю Я. Брыля. Гэта празаік лірычнага складу. Магчыма, таму яму лепш за ўсё ўдаюцца апавяданні і асабліва апавяданні-мініятуры, дзе ўсё трымаецца на пачуцці, на настроі. Характэрнейшы твор Я. Брыля — апавяданне «Галя». Апавяданне гэта — своеасаблівая «песня без слоў». Ля хутарскага плота стаіць жанчына і ўслухоўваецца ў гудзенне трактара, на якім працуе Сяргей — яе маладосць, дзявочыя мары, колішнія надзеі на шчасце. Насустрач гудзенню трактара, туды, дзе Сяргей, рвуцца думкі, памяць, пачуцці Галі — жонкі хутараніна. Жыццё Галі склалася няўдала. Каханага яе — камсамольца Сяргея, паны пасадзілі ў турму. Не здолела Галя абараніцца ад Міколы Хаменка, пайшла за яго замуж. Дарэмна ненажэрны бацька Міколы, стары Хамёнак, растачыў гумно, разлічваючы на снапы з пасажнага поля — не было ў сіраты Галі пасагу. Вось за гэта і ўзненавідзелі яе ў хаце Хаменка. Сам Мікола толькі да вяселля іншым здаваўся, а як пераступіла Галя парог яго хаты, і ён паказаў сябе сапраўдным Хамёнкам.

Аб усім гэтым з болем успамінае Галя, стоячы ля агарожы хутара і ўслухоўваючыся, як гудзе вясёлы, працавіты калгасны трактар, на якім яе Сярожа — яе няздзейсненая мара аб шчасці, яе каханне. Многа падзей адбылося з таго часу, як Галя стала наймічкай у доме ўласнага мужа, пераступіла парог «гэтай чортавай ямы» — хутара: вызваленне ад паноў, вайна, зноў вызваленне. Многае змянілася, нязменным засталося адно — нязгасная мара Галі аб шчасці, каханне да Сярожы.

«Ён даўно ўжо Сяргей, а не Сярожа, ён даўно ўжо забыўся,— відаць, выцер з памяці ўсё, што калісьці было. А ты крычы, ты ўспамінай, раздзірай душу, дурніца, хоць да крыві»…[1]

І зноў і зноў карае сябе ўспамінамі Галя: аб тым, як давялося сустрэцца з Сярожай-партызанам у вайну і як пакутавала яна ад сораму за свайго барадатага мужа (бараду ён адгадаваў, каб яго ў партызаны не забралі). Пасля вайны муж яе заняўся спекуляцыяй і папаўся, але Галі не шкада яго: гэта ж ён, яго хутар, завязалі ёй свет, адабралі ў яе шчасце. І якое шчасце такі бацька і яго хутар могуць даць яе дзецям? Такое хіба, як і ёй, іх маці! Вось таму Галі так ненавісны хутар, таму так цягнецца душа яе насустрач вясёламу гудзенню трактара там, на калгасным полі…

І хоць як быццам усё ў Галі ў мінулым, страчана, але пафас апавядання жыццесцвярджальны. Не страчана мара аб шчасці,

[1] Я. Брыль. На Быстранцы, Мінск; 1955, стар. 183

душа жанчыны рвецца да яго, а гэта прымушае верыць, што наперадзе ў Галі — светлае.

Умее Янка Брыль апавядаць пра лёс людзей так, што мы адчуваем: гэта ўсё блізка самому пісьменніку, закранае яго самога, прымушае яго ўласнае сэрца біцца мацней ад радасці ці заміраць ад болю, пакуты.

Сапраўды — гэта пісьменнік-лірык.

«І хто мог падумаць, што іх развітанне — навекі!..

Цяпер вось стой ды слухай, як за пшаніцай, за вырваным ільном гудзе яго вясёлы, працавіты трактар. Думай пра першую радасць сваю, крычы, звар'яцей ды крычы, каб успомніў цябе і прыйшоў. З ім калісьці цёпла было стаяць і на снезе, а цяпер табе, баба, холадна ўжо і на летняй расе. Ідзі, ідзі, дурніца, у хату, дарэмна стаіш... Няхай трактар гудзе, няхай не дасць табе заснуць да дня.

Галя ціха пайшла»[1].

У апавяданні «Галя» Я. Брыль пераадолеў тую лірычную аднатоннасць, якая была характэрна для яго больш ранніх апавяданняў аб зменах у жыцці заходнебеларускай вёскі («Дзяўчынанька чарнаброва», «Ой, лянок, лянок мой чысты» і др.), пераадолеў і пайшоў далей, застаючыся лірыкам, але лірыкам больш глыбокім, рознабаковым, з больш багатай гамай пачуццяў.

Аднак сказаць, што Я. Брыль — лірык — гэта яшчэ амаль нічога не сказаць аб мастацкім стылі яго.

Зразумець, у чым своеасаблівасць стылю Я. Брыля — гэта значыць устанавіць, у чым сакрэт таго, што лірызм, эмацыянальнасць малюнка ў Я. Брыля так удала спалучаюцца з рэдкай выразнасцю, чысцінёй, пластычнасцю. Тое, што Я. Брыль малюе, чытач бачыць.

«Сакрэт», мабыць, у пастаянным імкненні мастака да таго, што ёсць само жыццё, «жывое жыццё», з чым так непасрэдна і адчувальна сутыкаецца і яго асноўны герой — чалавек з народа, чалавек працы.

Я. Брыля вылучае шырыня погляду на свет, уменне бачыць чалавека ва ўсім багацці і натуральнасці яго сувязей як з грамадствам, так і са светам прыроды. Таму ў яго творах чалавек сапраўды жыве, а не выконвае пэўнай кампазіцыйнай ролі. У аповесці «У Забалоцці днее» ёсць месца, дзе апавядаецца аб тым, як старшыня калгаса Сурмак пападае ў рукі бандытаў і як вырываецца ад іх:

«Лячу па лесе, як лось. Трашчыць сушняк, шчыміць пад ударамі голля твар, а дух займае ад лёту і шчасця!.. Недзе там,

---

[1] Там жа, стар. 189.

ззаду, чуваць былі стрэлы і крык пагоні. «Паршыўцы!» — думаю я і, у знак поўнай пагарды да іх, спыняюся, іду памалу, а потым саджуся на мох…

У роснай засені цвітуць маленькімі белымі зоркамі кветкі чарнікі, а высока ўгары, на вяршалінах дрэў, іграюць першыя промні сонца. Гэта вяртае мяне да жыцця яшчэ больш. Я заўважаю, што побач стаіць надломанае дрэўца бярозкі. «Добры кіёк, прыдасца, можа, хто ведае»,— думаю я. Зламаць бярозку лёгка, ды яна яшчэ ўсё расце, зелянеюць лісточкі. «Няхай расце»,— думаю я і ад радасці б'ю па зямлі кулаком:

Жыву, дарагая, жыву!..»[1]

Гэта крык мужнага чалавека, шчаслівага, што ён застаўся жывы на зло ворагам, але адначасова — крык радасці жывой істоты, якую мінула смерць. Адчуванне жыцця ў Сурмаку абвострана тым, што ён толькі-толькі адчуў халоднае дыханне смерці, небыцця.

Але для твораў Я. Брыля наогул характэрна вось гэтае свежае, вострае адчуванне жывога жыцця. Якраз яно і абумоўлівае выразнасць, «бачнасць» яго вобразаў, карцін, яго мастацкага малюнка.

«Яна смяецца. Я сяджу ля вядра на зямлі, і гэтак мне добра глядзець на вясёлую маму. Таксама добра глядзець, што мой Сняжок сядзіць на краёчку вядра, учапіўшыся за гэты край чырвонымі маршчыністымі ножкамі, а ў вадзе, чым больш яна аціхае, усё выразней адлюстроўваецца яго белае волле.

І вось ён нарэшце напіўся. Паглядзеў на нас, натурыўся, нібы са злосці, і скочыў у ваду.

— О, гэта дык гэта!— замахнулася мама.

— Ты не гані яго,— крычу я,— не гані! Няхай пакупаецца!..

Кажу таксама, што я і сам вады прынясу, ды мама зноў смяецца.

— Ну, дзетам — ты прынясеш!..— гаворыць яна.— Здаравяка знайшоўся. І сама прынясу. Ды ён вады не замуціць, ён чысценькі.

Сняжок вады не замуціў. Калі ён скончыў купацца і мама паднесла вядро на парог хлява, Падласка зусім спакойна пачала піць. П'е яна, таксама як голуб, прагна. Пакуль ён піў, яна глядзела з хлява, з-пад дручка, якім завалены дзверы, і нават раз замычала ад зайздрасці. Падласка п'е, а мне прыемна глядзець, як хутка апускаецца ў вядры вада. Пасля карова чмакае пысай, цягнучы рэшткі вады, і ласа ліжа драўлянае мокрае дно шурпатым, казытлівым языком. Я люблю гэтае казытанне і таму падстаўляю малую далонь пад халодную мокрую пысу Падласкі»[2].

---

[1] Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці. 1952. стар. 131-132.
[2] Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці, 1952, стар. 303-304.

Праўда, часам здараецца, што мастацкі малюнак Я. Брыля як бы губляе выразнасць, контуры яго расплываюцца. Чытаеш шчырыя, прачулыя, лірычныя радкі, яны нават кранаюць цябе, але адчуванне такое, як у стэрэокіно, калі згублен «фокус»: малюнак расплываецца. Застаецца лірызм, эмацыянальнасць, але і яны аслабляюцца, бо знікае выразнасць, пластычнасць, шматфарбная яркасць малюнка. Такое здараецца з Я. Брылем не часта і здараецца тады (напрыклад, у апавяданні «Памылка»), калі яму не ўдаецца ўтрымацца на мяжы лірызма, калі ён схіляецца да пачуццёвасці і нават сентыментальнасці. Паўтараем, сентыментальнасць, слязлівасць рэдка прарываюцца ў творах Я. Брыля, але ўсё ж аб гэтым варта гаварыць, бо заўсёды важна, каб пісьменнік адчуваў, у чым яго магчымая слабасць. Умець «дысцыплінаваць» свой талент — гэта таксама майстэрства.

У Я. Брыля, у самім таленце яго ёсць добрае «праціяддзе» ўсякай пачуццёвасці, сентыментальнасці — гэта сакавіты, здаровы, народны гумар. Уласна кажучы, «чыстая лірыка» — не самае моцнае ў стылі Я. Брыля. Значна мацней гэты мастак там, дзе лірызм у яго ўраўнаважваецца вось-вось гатовай успыхнуць усмешкай, а драматызм і нават трагізм — мудрай народнай разважлівасцю.

Наколькі мацней перадаецца пачуццё аўтарскага замілавання да героя ў апавяданні «Мой зямляк» якраз таму, што аўтар стрымлівае свае пачуцці, як бы прыхоўвае іх за ўсмешкай! Вось стаіць Паўлюк перад партызанскім камандзірам, якому ён абавязкова павінен спадабацца, бо яго «незаконна» прывялі ў атрад. Той, хто прывёў сувязнога Паўлюка без дазволу штаба, трохі баіцца камандзіра, яго гневу, а Сам Паўлюк не губляецца: ён заўсёды мае ў запасе нешта такое, што павінна размягчыць сэрца начальства. Паўлюк дыпламатычна намякае на тое, што ён ведае мясцінку, дзе можна прыдбаць «бомбачак».

«А я чамусьці гляджу на яго здаравенныя боты. Калені ўжо самавольна прыгнуліся ў паўдарогі са «смірна» на «вольна», і адзін ступак адставіўся ўбок, выразна парушаючы дысцыпліну.

...Іван Кузьміч увачавідкі мякчэе. Ён бярэ са стала сваю вечную люльку і круглую баначку...

— А вы майго, таварыш камандзір, мультанчыку... А то вы, гляджу я, нейкую там пацяруху курыце. Эх, і хлопцы ж у вас, каб чаго — табаку не прынесці!

— Яны толькі за дзеўкамі, язві іх душу,— зусім дабрадушна мармыча Іван Кузьміч, лезучы трыма пальцамі ў паўлюкоў капшук...

— Язві яго душу — хар-рош!..

Я не куру. Мне мультан не мультан — адзін чорт. Ды якое там, па-мойму, з табаку хараство! Я ўпэўнены, што камандзір гаворыць гэта больш пра Паўлюка»[1].

Талент ЯБрыля па-сапраўднаму жыццелюбівы. Якое вока паэта і жыццялюба патрэбна мець, каб убачыць і «пачуць» такое:

«А мой Сняжок тым часам ужо на страсе.

Ён ужо дакарае за нешта сваю галубку, сварыцца на галубянят. Яны сядзяць на тым баку страхі, ад сонца, і мне іх з двара не відаць. Відаць толькі Сняжок, які на самым: хрыбце страхі. Ён надзімаецца і кружыцца ваўчком, і пад'язджае, як індык, і ўсё вурчыць, вурчыць!.. Я разумею, што ён кажа. Ён сварыцца на сваю ціхую, беленькую сяброўку Волечку, якая залішне песціць малых.

— Нат-тур-ра, нат-тур-р-ра!— сварыцца ён. — Ім, гультаям, і нар-р-руку, а ты ім пат-тур-р-рай!..

— Не гультаі, не гультаі, а гу-а-гу-а, гуленькі,—, гудзе ў адказ далікатная, ціхая Волечка. Яна ўжо выйшла на хрыбет страхі і вытанцоўвае вакол свайго сварлівага гаспадара.— Куды лятаць, чаго лятаць,— стараецца абараніць дзяцей.— Яшчэ каршун, яшчэ карш-ун, а гу-а-гу-а, гуленькі!..

— Які кар-р-шун? Які кар-р-шун? — яшчэ больш абураецца Сняжок»[2].

Стылёва-мастацкае багацце, шматфарбнасць беларускай савецкай прозы — адзін з пераканаўчых доказаў плённасці метаду сацыялістычнага рэалізма. Тут зроблены толькі асобныя назіранні ў гэтым кірунку. Нажаль, праблема мастацкай разнастайнасці савецкай літаратуры і на сёння застаецца найменш распрацаванай у нашым літаратуразнаўстве.

---

[1] Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці, 1952, стар. 212-213.
[2] Там жа, стар. 302.

# ЧАЛАВЕК І СВЕТ ПРЫРОДЫ

У адной размове, дзе было ўжыта слова «біялагічнае» ў адносінах да чалавека, малады выкладчык грамадскіх навук усклікнуў амаль спалохана: «Што вы, таварыш Н., чалавек жа — прадукт грамадскага развіцця!»

Ён, безумоўна, меў рацыю ў асноўнай думцы. Але трэба было чуць, як думка гэтая была выказана, якім тонам: адчувалася, што паняцце біялагічнага для гэтага чалавека — «табу», небяспечнае слова, якое не растлумачваюць, аб якім проста трэба маўчаць.

Сапраўды, чалавек стаў тым, кім ён з'яўляецца, у працэсе грамадскага развіцця. Аднак развіццё гэтае праходзіла ў свеце прыроды, у працэсе падпарадкавання сіл прыроды грамадству, чалавеку. І яна, прырода, не толькі вакол нас, яна і ў самім чалавеку: «біялогія», прырода, не зніклі ў грамадскім чалавеку, яны толькі «ачалавечыліся».

Праўда, жывая прырода «знікла» з некаторых літаратурных твораў, у якіх замест жывых людзей дзейнічаюць носьбіты пэўных «грамадскіх функцый». Але лепшым доказам аднабаковасці такога погляду на чалавека з’яўляюцца самі гэтыя творы — безжыццёвыя, пазбаўленыя сапраўднай глыбіні і праўды.

Творы мастацтва, якія захапляюць нас паўнатой жыццёвай праўды, псіхалагічным багаццем і пластычнасцю вобразаў, пры ўсім іх канкрэтным адрозненні маюць адну агульную асаблівасць: чалавек у іх — часцінка грамадства, але разам з тым і часцінка складанейшага ў сваіх формах свету прыроды. Гэта правільна ў адносінах Леанарда да Вінчы і Рубенса, Шэкспіра і Пушкіна, Талстога і Чайкоўскага. Правільным гэта застаецца і ў адносінах мастацтва сацыялістычнага рэалізме, бо ў гэтым сама спецыфіка мастацкага асэнсавання свету.

Сапраўды, прадметам мастацтва з’яўляецца не чалавек абстрактны, а той, што жыве ў грамадстве і ў свеце прыроды. Іменна ў чалавеку, і выключна ў ім і праз яго, рэалізуецца сувязь паміж грамадствам і прыродай. Толькі мастацтва здольна ўбачыць і паказаць чалавека ва ўсім багацці яго сувязей са светам.

Указваючы на функцыі прыроды, пейзажа ў творах вялікіх мастакоў слова, мы вельмі часта спрашчаем праблему. Бясконца чуеш, што пейзаж нешта «падкрэслівае», «адцяняе» і г. д.

А між тым пейзаж у творах мастацтва можа і не выконваць такой вузка службовай функцыі. Пейзаж — гэта свет прыроды, у якім чалавек жыве, з якім ён арганічна звязаны. Грамадскі чалавек — часцінка гэтага свету. Іменна ў чалавеку прырода праяўляе сябе ў найвышэйшай ступені, з найвялікшай сілай і прыгажосцю. І, магчыма, ніхто з мастакоў не ўмеў лепш бачыць і ра-

зумець гэтую ісціну, пераконваць у ёй чытача, умацоўваючы ў ім гордасць за «чалавечае званне», чым Максім Горкі.

Грамадства, прырода, чалавек — паняцці нераздзельныя для сапраўднага мастака.

Грамадскі, духоўны, маральны пачатак аўтар «Вайны і міру» заўсёды ставіў на першы план. З амаль хрысціянскай суровасцю выпісвае ён асляпляльныя плечы бяздушнай Элен Курагінай. Аднак ён іх малюе, таму што ён мастак і павінен прымусіць другіх убачыць тое, што бачыць сам.

Выключная здольнасць гаварыць усю бязлітасную праўду аб чалавеку, бачыць і паказваць не толькі ўсе глыбіні грамадскіх з'яў, але і непрыкрытую «жывую прыроду», «жывое жыццё» — гэта і надае вобразам і карцінам Льва Талстога велізарную мастацкую сілу.

І колькі сапраўднай, адухоўленай паэзіі ў «жывым жыцці», якое так смела ўзнаўляе гэты мастак у сваіх творах: у дзікім віску Наташы Растовай, з якім яна сустракае брата-гусара, у непрыгожым твары Марыі Балконскай, у сцэне родаў і г. д.!

Маральны, духоўны пачатак для Льва Талстога — галоўнае ў чалавеку. Але як умее ён азарыць духоўным святлом і «прыродную абалонку», з якой настойлівасцю імкнецца ён зрабіць яе бачнай.

Вялікія грамадскія сілы і страсці сутыкаюцца ў рамане Міхаіла Шолахава «Ціхі Дон». Але героі «Ціхага Дона» — не абстрактныя сацыяльныя сутнасці, а жывыя людзі. І таму так няпроста вырашаюцца ў рамане Шолахава канфлікты — грамадскія, класавыя, гістарычныя.

Ускладняюцца гэтыя канфлікты і пачуццём любасці герояў да «данской зямлі», на якую, па думцы многіх казакаў, замахваюцца «мужыкі», і саяцкімі пачуццямі, і звычайнымі чалавечымі слабасцямі, страсцямі і г. д.

Пісьменнік бачыць і паказвае вялікую праўду камуніста Міхаіла Кашавога. І тым не менш пісьменнік з душэўнай чалавечай павагай да мацярынскага гора Ільінічны апавядае аб тым, як нялёгка прымірaецца сэрца маці з тым, што «забойца» яе сына Пятра Міхаіл Кашавой уваходзіць у яе дом зяцем.

З «талстоўскай» праматой і бязлітаснасцю малюе Міхаіл Шолахаў вайну і чалавека на вайне, тое, як «страшэнна проста» паміраюць людзі, мінуту да таго поўныя надзей. Ён не баіцца паказаць, як у казакаў, што прыбылі на фронт, страх перад смерцю спалучаецца з палахлівай цікаўнасцю да яе ахвяр. Мелехаў Грыгорый — гэты смелы «чарцяка», дзёрзкі «турка», калі яго ўпершыню паранілі, панізе сярод трупаў і плача, як дзіця…

«У Ціхім Доне» жывыя людзі пакутуюць, любяць, ненавідзяць і дзейнічаюць у рэальным свеце. І таму ўсё так няпроста і неаднапланава ў гэтым рамане. Міхаіл Шолахаў умее зберагчы і

перадаць тую «несіметрычнасць» з'яў, якая, па словах Льва Талстога, ёсць першая адзнака рэальнага жыцця.

Але рэалізм М. Шолахава гэтым не вычэрпваецца. Міхаіл Шолахаў па-майстэрску паказвае, як скрозь награмаджэнне чалавечых лёсаў і страсцей, выпадковасцей і бытавых з'яў непераадольна цвёрда прабіваецца гістарычная неабходнасць, вышэйшая рэвалюцыйная справядлівасць.

Тыя ж прынцыпы мастацкай тыпізацыі і ва «Узнятай цаліне», і ў апавяданні М. Шолахава «Лёс чалавека».

Чытаючы «Лёс чалавека» — невялікае апавяданне аб поўным трагізму жыцці простага рускага чалавека, міжволі ўспамінаеш «Ціхі Дон». Адчуваецца, што тут Міхаіл Шолахаў зноў звярнуўся да таго, што ёсць у кожнага сапраўднага мастака — да сваёй запаветнай тэмы. Імкненне перадаць драматычную складанасць жыцця — вось што збліжае невялікае апавяданне «Лёс чалавека» з шолахаўскай эпапеяй «Ціхі Дон».

Магчыма, гэта вельмі суб'ектыўна, але чамусьці верыцца, што іменна апавяданне «Лёс. чалавека» — ключ да доўгачаканай шолахаўскай эпапеі аб вялікім подзвігу савецкага чалавека ў Айчыннай вайне.

Велізарнае гэта майстэрства — маляваць чалавека, не вырываючы яго з багацейшых сувязей са светам,— як з грамадствам, так і з прыродай. Толькі тады прыходзіць тая паўнакроўнасць і цэласнасць карцін жыцця, якая так зачароўвае нас у творах Міхаіла Шолахава.

Выдатны прыклад такога ж усебаковага, поўнага ахопу жыцця чалавека — «Рускі лес» Леаніда Ляонава.

Праз адносіны да прыроды, якая з'яўляецца часткай паняцця Радзімы, пісьменнік змог паўней раскрыць грамадзянскае аблічча ідэйных праціўнікаў — Віхрова і Грацыянскага. Цудоўны вобраз Полі ўвесь вырастае з уласцівых яе ўзросту страшэнна непасрэдных адносін да таго, што яе акружае: да людзей, рэчаў, лесу, сонца... Свет вачыма Полі адкрываецца як бы нанова, ён малюецца пісьменнікам быццам бы адсвечаным у шырока раскрытых, чыстых, сумленных вачах дзяўчыны-падлетка.

Прырода — добры і надзейны сябар Полі. У тыле ворага яна не адчувае сябе адарванай ад таго свету, што •ўзрасціў і выхаваў яе, бо навокал — родная прырода.

«И, словно предвидя состояние девочки, посланной на святое и опасное дело, вся тамошняя природа заторопилась ей навстречу. Она понавесила снежную муть по всей Емге, выслала тугой, с морозцем ветерок и волчью поземку, она подкинула под ноги Поле полуприметную колею крестьянских саней и настрого наказала лесу не сбивать её с дороги».

А калі затрыманую немцамі Полю вядуць у зямлянку да афіцэра на мучэнні і, магчыма, на смерць, дзяўчына бярэ «снежок в горстку», каб не быць адной перад ворагамі.

Такая тонкасць псіхалагічных дэталей у Л. Ляонава спалучаецца са здзіўляючай пластычнасцю вобразаў, жывапіснасцю карцін.

У таго, хто прачытаў «Рускі лес», доўга будзе «стаяць у вачах» не толькі жывое аблічча Віхрова, Полі, Грацыянскага, але і «вобраз» (іменна вобраз!) той «прамой, як прамень», сасны, якую губіць купец Кнышаў.

Тое, што ад размовы аб прыродзе мы адразу перайшлі да размовы аб пластычнасці вобразаў, жывапіснасці карцін, не з'яўляецца адступленнем ад тэмы, бо ўсё гэта адна праблема. Толькі той мастак, які ўмее цаніць «жывую прыроду», «натуру», здольны ствараць вобразы, якія можна бачыць, вобразы сапраўды пластычныя.

Існуюць бясконца разнастайныя формы і прыёмы стварэння «выпуклых», пластычных, «бачных» вобразаў і карцін. У гэтых выпадках звычайна гавораць аб «адчуванні слова». Аднак і само «адчуванне слова» прыходзіць да мастака ў адпаведнасці з тым, як ён авалодвае майстэрствам бачыць і цаніць багацце і сакавітасць фарбаў «жывога жыцця». Без гэтага майстэрства ўсе прыёмы і ўсе словы — мёртвыя.

Аўтару гэтага артыкула неяк прыйшлося чытаць апавяданне, у якім пісьменнік спрабуе выкарыстаць талстоўскі прыём «прыставання» да чытача з адной рысай партрэта. Зноў і зноў напамінае пісьменнік, што ў яго гераіні «пульхныя губы». Але паколькі талстоўскі партрэтны прыём выкарыстаны чыста знешне і няма за ім адчування жывога чалавека, уражанне атрымліваецца даволі непрыемнае: па плоскім твары манекена наклеены «пульхныя губы».

Пра многіх літаратурных герояў мы гаворым: «Як жывы!» І гэта ў поўным сэнсе вышэйшая ацэнка майстэрства мастака. Намаляваць чалавека, каб ён быў «як жывы», можа толькі той пісьменнік, які добра ўлоўлівае і перадае ўзаемазалежнасць душэўнага руху і «жэста», умее бачыць чалавека як жывое, цякучае адзінства «ўнутранага» і «знешняга». Надзвычай смела і праўдзіва адкрывае ўзаемазалежнасць «унутранага» і «знешняга» ў чалавеку Аляксей Талстой. У рамане «Хаджэнне па пакутах» ёсць такая дэталь: прыгнечаны падзеямі, у якіх ён не можа разабрацца, брудны, Вадзім Рошчын ідзе па вуліцы, думаючы аб самагубстве. У такім стане ён выпадкова зайшоў у цырульню, пагаліўся, выйшаў на сонечную вуліцу — і вось ён ужо са здзіўленнем успамінае аб нядаўніх змрочных думках і намерах. І верыш жа мастаку, што такая, здавалася б, дробязь — адчуў сябе чалавек маладзейшым,

прыгажэйшым, проста чысцейшым — змяніла ўвесь ход думак і жаданняў Вадзіма Рошчына.

Адчуванне чалавекам самога сябе, сваёй знешнасці, погляд на сябе збоку ў літаратуры вельмі часта служыць для аўтара як бы пунктам гледжання на душэўнае жыццё чалавека. Гэта, зразумела, не адзіны, але вельмі пладатворны прыём лепкі выпуклых, пластычных вобразаў.

Як жывую бачым мы Наташу Растову ў сцэне, якая дазваляе адначасова бачыць і знешнасць гераіні, і даверліва раскрытую яе душу:

«Окончив первый урок, она остановилась па середине залы и повторила одну музыкальную фразу, особенно понравившуюся ей. Она прислушалась радостно к той (как будто неожиданной для нее) прелести, с которой эти звуки переливаясь наполнили всю пустоту залы, и медленно замерли, и ей вдруг стало весело. «Что об этом думать много, и так хорошо», сказала она себе и стала взад и вперед ходить по зале, ступая по звонкому паркету, но на всяком шагу переступая с каблучка (на ней были новые, любимые башмачки) на носок и так же радостно, как и к звукам своего голоса, прислушиваясь к этому мерному топоту каблучка и поскрипыванию носка. Проходя мимо зеркала, она заглянула в него.— «Вот она я!» как будто говорило выражение ее лица при виде себя.— «Ну и хорошо. И никого мне не нужно».

Лакей хотел войти, чтобы убрать что-то в зале, но она не пустила его, опять затворив за ним дверь, и продолжала свою прогулку. Она возвратилась в это утро опять к своему любимому состоянию любви к себе и восхищения перед собою.— «Что за прелесть эта Наташа!» сказала она опять про себя словами какого-то третьего, собирательного мужского лица.— «Хороша, голос, молода и никому она не мешает, оставьте только ее в покое». Но сколько бы ни оставляли ее в покое, она уже не могла быть покойна и тотчас же почувствовала это».

Уменне бачыць складаную сувязь «знешняга» і «ўнутранага» ў чалавеку ў вялікай ступені было ўласціва выдатнаму беларускаму празаіку К. Чорнаму, пісьменнікупсіхолагу. У аповесці «Люба Лук'янская» ёсць такое месца. Дробны і хітры драпежнік Ян Стафанковіч пад старасць нечакана, твар у твар, сутыкнуўся з уласнай жыццёвай філасофіяй, якую пераняў ад Стафанковіча яго ж сын Сашка. Сашка, лоўкасцю і бессардэчнасцю якога Стафанковіч калісьці захапляўся («урвіцель, падла, эйш, які спрытны, па мне пайшоў!»), адмаўляецца ад бацькі, калі яму пашчасціла «выбіцца ў людзі». Стары Стафанковіч вымушаны шукаць Любу і ўнука, ад якіх ён калісьці хаваў свайго «ўрвіцеля» — сына. Стафанковіч сам ніколі нікому не паспачуваў і не дапамог у

бядзе, але цяпер, калі прыйшла старасць, калі яго так пакрыўдзіў уласны сын, гэтаму чалавеку хочацца верыць, што ён варты спачування, заслугоўвае ласкі і ўвагі. А як жа, ён такі стары і хворы! Усё яшчэ моцны, «жылісты» Стафанковіч у гэты момант хацеў бы адчуваць сябе і хворым і слабым.

«Ён пачаў прыслухоўвацца, ці не ные бок і ці не дранцвее нага. Як быццам бы і ныла і дранцвела». І вось ён ужо ледзьве ногі валачэ, ідзе, «грабучы нагамі па тратуары», нават пакульгваць пачаў. І тое, што ён «грабе нагамі» і «пакульгвае» выклікала ў ім яшчэ больш жаль да самога сябе, ён ужо зусім паверыў, што Люба павінна прыняць яго, даць яму вугал, зрабіць старасць яго цёплай і забяспечанай.

«Покуль ён дайшоў, куды яму трэба было, то ўжо быў упэўнены ў тым, што ў яго мноства хвароб. Яму пачало нядобрыцца: то ў спіне кальне, то ў сярэдзіне заные, то ў галаву стукне. Ён прыслухоўваўся: баліць ці не? Прыслухаўшыся, то яно сапраўды баліць, і яшчэ як моцна. Тады ён прыслухоўванне сваё даводзіў да найвышэйшай ступені і меў задавальненне: баліць, на яго выйшла».

Сама паходка героя ў гэтай карціне неяк звязана з яго ўнутраным псіхалагічным станам. Пры гэтым пісьменнік паказвае не толькі тое, як паходка, знешні выгляд героя абумоўлены псіхалагічным станам, перажываннямі яго, ён устанаўлівае і адваротную сувязь: пачаў Стафанковіч «грабсці нагамі», і гэта дало новы ход яго настрою, яго думкам. Знешняе і ўнутранае ў гэтым чалавеку для чытача настолькі злілося адно з другім, што ў тыя хвіліны, калі Ян Стафанковіч расплачваецца за ўсё сваё жыццё, калі душа яго сціснулася ад прадчування апошняга ўдару, пачынае здавацца, што ён увесь неяк «сціснуўся», нават ростам паменшаў.

І душу, і знешняе аблічча гэтага чалавека мы бачым аднача-сова, таму такі адчувальны, жывы гэты вобраз у нашым уяўленні.

У творах пісьменнікаў, здольных бачыць і цаніць «жывое жыццё», чалавек, грамадства і свет прыроды выступаюць ні ў чым не збедненымі. Няма ў такіх творах нуднай дазіроўкі станоўчага і адмоўнага, святла і цені, а ёсць само жыццё ва ўсёй яго склада-насці і супярэчлівасці. Гэта добра даюць адчуваць і творы су-часных беларускіх 'пісьменнікаў. У беларускую прозу ўвайшлі і ста-лі ў шэрагу лепшых яе дасягненняў апавяданні і аповесці Янкі Брыля, які валодае талентам жыццелюбівым і багатым. Творы яго знаёмяць чытача з самымі разнастайнымі бакамі жыцця: мастак апавядае і аб радасным і аб сумным, і пра тое, што нам дорага, блізка, і пра тое, што выклікае горыч, крыўду, нянавісць. Але аб чым бы ні гаварыў ён: аб сірочым хлебе пастушка («Сірочы хлеб»), аб асабістым жыцці маладой сялянкі, якое склалася няўдала

(«Галя»), аб пабегу з нямецкага палону («Сонечны зайчык»), аб бяздушшы бюракрата («Прывал»), у творах яго побач з ценем столькі святла, радасці, жыцця, што ўсё дрэннае і горкае ніколі не засціць сабой шчасця жыць, змагацца за ўсё лепшае, шчасця бачыць вакол сябе цікавых і яркіх людзей, быць сярод іх, жыць радасцямі і бедамі, думкамі і пачуццямі свайго народа. Грамадскі пафас твораў Янкі Брыля ўзмацняецца тым, што чалавек у яго «правяраецца» і «ацэньваецца» не толькі нормамі нашай маралі, але і з пункту гледжання ўсяго прыгожага, што ёсць у свеце прыроды.

Паліцай Капейка («У Забалоцці днее»), чынуша Фамут («Прывал»), спекулянт Мякіш («На Быстранцы») для Янкі Брыля несумяшчальны не толькі з нашым грамадскім жыццём, але і з жыццём наогул: з сонцам, дзіцячым смехам, зялёнай рунню.

І дарэчы, ёсць прамая заканамернасць у тым, што пісьменнік, які ведае прыроду, у кім, кажучы словамі Міхаіла Прышвіна, ёсць «страснае пачуццё прыроды», такі пісьменнік звычайна добра разумее і дзіцячую псіхалогію, бо дзеці — гэта тое, што ў найбольшай ступені звязвае чалавека са светам прыроды, з жыццём. У Янкі Брыля дзеці з прыродай жывуць па-сяброўску.

«Сонца хоча, каб хлопчык устаў, і яно прыпякае яго. «Чыхнеш, чыхнеш усё ж такі»,— смяецца сонца. І праўда, Анатоль не вытрымаў, чыхнуў».

Там, дзе дзеці («Ліпка і клёнік», «Сірочы хлеб» і г. д.), прырода ў Янкі Брыля «размаўляе» з героямі і чытачамі ўсім багаццем гукаў, фарбаў, светаценяў.

Жыццялюбства і народнасць — якасці непадзельныя. У гэтым пераконвае нас творчасць усіх вялікіх майстроў. Народ — аптыміст па сваім светаадчуванні. Іменна ў народзе чэрпала мастацтва ва ўсе часы аптымізм і жыццялюбства.

Размову аб тым, што нельга чалавека вырываць з акружаючай яго прыроды, мы ніяк не хацелі б зводзіць да папулярызацыі таго просталінейнага і павярхоўнага «біялагізма», якім перахварэла наша літаратура яшчэ ў 20-я гады.

Не ігнараваць біялагічнага ў чалавеку зусім не значыць рабіць «біялогію» пунктам гледжання на чалавека, зыходным пунктам для разумення яго паводзін.

Усякі акцэнт на «біялогіі» — таксама аднабаковасць.

У першым нумары альманаха «Наш современник» за 1957 г. надрукавана аповесць Станіслава Мялешына «Таежны стрэл». На плытах сабраліся людзі вельмі розныя: «шырокая душа» Васька Дубін, які стаў плытагонам, каб зарабіць грошай на вяселле, асеўшы ў Сібіры ўкраінец Грыгор’еў, чалавек цяжкі ў рухах і думках, «паляўнічы за рублямі» Жвакін, абрусеўшы, добры і шчыры мансі Саміндалаў, закаханыя Нікалай і Антаніна, якія «збеглі ў жыццё» ад

бацькоў. Ва ўсіх гэтых людзей свая мара аб удачы, шчасці, будучыні. У Жвакіна мара гэтая звязана выключна з грашыма, у другіх — з думкай аб каханай ці той, якую прыйдзецца пакахаць. Шчаслівы сваім каханнем да раскошна прыгожай Глафіры, Васька Дубін з усіх сіл стараецца, каб і ў другіх былі ўдачы: ён дапамагае Саміндалаву выкрасці ў радні Майру, перажывае за Грыгор'ева, які з нялёгкай душой стараецца наладзіць сваё шчасце з чужой жонкай, з «гладкатварай і румянай» Аўдоццяй. Вакол гэтага і круціцца ўсё ў аповесці.

«Гэта значыць — людзі любяць адзін другога і «на ўсіх сонца адно», як сказаў добры і ціхі, самы ласкавы чалавек з іх — мансі Саміндалаў Сцяпан. І гэта самае лепшае, што робіць людзей таварышамі, а не праца, няшчасце ці свята».

Было б няправільна зводзіць ідэйны змест аповесці Станіслава Мялешына да гэтага даволі спрэчнага аўтарскага абагульнення. Філасофія твора Мялешына і шырэй і багацей гэтага абагульнення: у падтэксце аповесці прабіваецца думка аб тым, што ёсць дзесьці, зусім недалёка, жыццё больш змястоўнае і больш насычанае грамадскімі інтарэсамі. Туга па гэтым жыцці хваляй находзіць на Ваську Дубіна і нават на Грыгор'ева.

Вартасцю твора Мялешына можна лічыць выразнасць і сакавітасць выпісаных з любоўю чалавечых характараў, каларытнасць карцін таежнага жыцця. На прыкладзе гэтага твора можна нават бачыць, як ярка піша мастак, які смела звяртаецца да сакавітых фарбаў «жывога жыцця», не баіцца «біялогіі».

І ўсё ж у падыходзе аўтара да жыцця ёсць нешта такое, што вельмі шкодзіць твору і можа яшчэ больш нашкодзіць пісьменніку ў будучым, калі яно ўмацуецца, стане тэндэнцыяй. У карцінным і, так сказаць, «нацюрмортным» нагрувашчванні страсцей і каханняў, характэрным для «Таежнага стрэла», заўважаецца пэўная штучнасць, знарочыстасць, якая збядняе жыццё. Людзі ўзяты ў заведама збедненых сувязях з грамадскім жыццём, і гэтае іх існаванне адзін на адзін з прыродай і сваімі страсцямі размалёвана такімі падкрэслена сакавітымі фарбамі і «кіпучымі» інтанацыямі, што туга Waські па нейкім іншым, больш змястоўным жыцці, здаецца мала апраўданай.

Прырода, «біялогія» бяруць верх у аповесці над усім астатнім, нягледзячы на ўсе старанні аўтара надаць твору больш грамадскага гучання.

Уменне бачыць і паказваць у чалавеку і тое, што звязвае яго з грамадствам, і тое, што робіць яго часткай свету прыроды, надзвычай патрэбна для мастака. Аднабаковы погляд на чалавека, на жыццё збядняе мастацтва, пазбаўляе яго сапраўднай ідэйна-мастацкай і выхаваўчай сілы.

# СТАЛАСЦЬ МАЛАДОЙ ЛІТАРАТУРЫ

Усяго паўстагоддзя назад амаль кожная размова ў друку пра беларускую літаратуру пачыналася з пытання: а ці жыццяздольнай, жыццяўстойлівай з'яўляецца літаратура на беларускай («простай», «мужыцкай») мове, ці здольна яна ўзняцца над узроўнем літаратуры правінцыяльнай, стварыць агульначалавечыя эстэтычныя каштоўнасці?

Само геаграфічнае становішча Беларусі як бы падкрэслівае «сярэдняе» становішча беларускай мовы, этнічнага аблічча беларуса ў адносінах да мовы і аблічча суседніх славянскіх пародаў: рускага, украінскага, польскага. З'яўляючыся мовай усходнеславянскай, беларуская мова ўвабрала ў сябе элементы і мовы польскай[1]

Блізкасць беларускай мовы да моў больш развітых літаратур зусім не пазбаўляе яе якаснай самастойнасці, тым не менш блізкасць гэтая вельмі бянтэжыла некаторых даследчыкаў культуры і літаратуры беларускага народа. Яны задавалі сабе і іншым пытанне: а ці не занадта малую пляцоўку пакінула гісторыя для літаратуры на «народнай», беларускай мове, ці можна ўзвесці яшчэ адзін будынак літаратуры паміж «будынкаў» суседніх славянскіх літаратур, ці не будзе літаратура на беларускай мове толькі штучнай прыбудовай да другіх літаратур? Нават акадэмік Я. Ф. Карскі, вялікі добразычлівец беларускай культуры, які нямала энергіі аддаў яе вывучэнню і папулярызацыі, нават ён усумніўся, ці зможа гэтая літаратура ў блізкім будучым ствараць эстэтычныя каштоўнасці агульначалавечых маштабаў. Ужо ў 20-я гады ў трэцім томе сваіх «Беларусаў» Я. Ф. Карскі пісаў: «Літаратура беларуская, якая адрозніваецца жыццеўстойлівасцю, як **правінцыяльная** (падкрэслена намі — **А. А.**) будзе існаваць і развівацца. Што датычыцца беларускай мовы, якой гаворыць просты народ, дык, жадаючы ёй усялякага працвітання ў будучым аж да сусветнага значэння, я па пытанню аб увядзенні яе цяпер у навуку, як мовы вышэйшага і нават сярэдняга выкладання, трымаюся прыблізна таго ж погляду, які быў выказаны ў апошні час і адным непрадузятым палякам (праф. І. А. Бадуэнам-дэ-Куртэнэ, «Варш. слово», 1920, № 93), іменна, «што беларуская мова настолькі блізкая да вялікай рускай, што ёй наўрад ці ўдасца ўтрымацца побач з гэтай апошняй. Для патрэб прыгожага пісьменства і для патрэб навукі, беларусы будуць, мабыць, карыстацца і надалей агульнарускай мовай, якая вырасла на

---

[1] Яшчэ Энгельс, гаворачы аб Вялікім княстве Літоўскім, адзначаў: «Вялікае княства Літоўскае было населена мноствам розных рас. Паўночныя правінцыі Прыбалтыкі былі ва ўладанні саміх літоўцаў, народа, які гаворыць на мове, адметнай ад моў яго славянскіх суседзяў... Далей на поўдзень і на ўсход ад сучаснага польскага Каралеўства знаходзіліся беларусы, якія гавораць на мове сярэдняй паміж польскай і рускай, але больш блізкай да апошняй» (К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. XIII, ч. I, стр. 158).

агульнарускай глебе» — прыбавім ад сябе — не без удзелу другіх рускіх гаворак, у тым ліку і беларускай, асабліва ў ранейшыя часы»[1]

Такім чынам, нават у першыя гады Савецкай улады многія даследчыкі не маглі прадбачыць, якія сапраўды неабмежаваныя магчымасці сацыялізм раскрывае перад культурамі раней прыгнечаных нацый, якія магутныя творчыя сілы разбудзіла ў народзе сацыялістычная рэвалюцыя. А іменна ад грамадскіх умоў усё і залежыла.

Сапраўды, калі новая беларуская літаратура складвалася са значным гістарычным спазненнем, калі доўгі час яна адставала ў жанравым і стылёвым развіцці, дык перашкаджала гэтаму зусім не моўная блізкасць да суседніх літаратур, а неспрыяльныя сацыяльна-грамадскія ўмовы. Само друкаванае беларускае слова доўгі час было пад забаронай, спачатку магнатаў-каланізатараў, а потым царскіх чыноўнікаў.

Занадта многа «клопатаў» прыносіла рускаму царызму ўласнаруская і «маларасійская» (украінская) літаратуры, каб царскія чыноўнікі маглі жадаць яшчэ развіцця літаратуры і на беларускай мове.

Але як толькі ў выніку першай рэвалюцыйнай буры была паслаблена жандарская забарона на беларускі друк, літаратура наша пачала інтэнсіўна развівацца.

Рэвалюцыя 1905 года вельмі садзейнічала прабуджэнню і росту сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. І адразу ж на матэрыяле народнага жыцця і на аснове дэмакратычнай літаратурнай традыцыі XIX стагоддзя з'явіліся творы, якія выводзілі беларускую літаратуру далёка за рамкі літаратуры этнаграфічнай, правінцыяльнай — драма Я. Купалы «Раскіданае гняздо», у якой з вялікай філасофска-псіхалагічнай глыбінёй раскрываецца сацыяльная трагедыя абрабаванага папамі беларускага працаўніка, яго ж камедыя «Паўлінка», шматфарбная, як народнае свята, фальклорна-рамантычная паэма «Курган», у якой у баладна-эпічным стылі апавядаецца аб долі народнага мастацтва і аб мужнасці народнага мастака, драматызаваная паэма «Адвечная песня» і другія творы Я. Купалы.

У шэрагу твораў, якія ўзнімалі беларускую літаратуру на ўзровень ідэйна-мастацкіх патрабаванняў эпохі, сталі многія вершы і апавяданні Я.Коласа і асабліва яго вершаваны раман «Новая зямля», вершы і паэмы М. Багдановіча, паэта высокай культуры.

---

[1] Е. Ф. Карский. «Белорусы», т. III. Очерки словесности белорусского племени. Художественная литература на белорусском языке. Выпуск 3. Петроград, 1922, стар. 42.

Між іншым паказальна, што іменна пралетарскі пісьменнік М. Горкі адным з першых адзначаў, што на Беларусі ствараецца вялікая, паўнацэнная ў ідэйна-мастацкіх адносінах літаратура.

У артыкуле «Аб пісьменніках-самавуках» М. Горкі звяртаў «увагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага забітага народа ў Расіі», на літаратуру, што нараджалася «ў масе патрывожанага народа».

Я. Купала з вялікай эмацыянальнай сілай расказаў свету аб гэтым «патрывожаным» рэвалюцыяй народзе ў вершы «А хто там ідзе?».

Праз творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, кажучы словамі Луі Арагона, «атрымаў голас у свеце і той партызанскі край, які здзіўляў Стэндаля, і той народ, які не паддаўся ні панам, ні фашызму». А гэта ж быў народ, у самім існаванні якога сумняваліся. Між іншым, сумняваліся тыя, хто «сумняваўся» і ў тым, што рускі мужык «таксама чалавек».

З этнаграфічным абліччам беларускага народа рускага чытача пазнаёмілі выдатныя вучоныя і фалькларысты Шпілеўскі, Бяссонаў, Шэйн, Раманаў, Карскі і іншыя, выдаўшы зборнікі багацейшага беларускага фальклору. З «жывым» абліччам, характарам, штодзённым бытам беларуса пазнаёміла шырокага чытача мастацкая беларуская літаратура. Гэтым самым беларуская літаратура ўзбагачала ўяўленне чалавецтва аб самім сабе: на «карце» этнічнай, псіхалагічнай, культурнай і моўнай разнастайнасці народаў запоўнена была яшчэ адна несправядлівая «белая пляма».

Але беларуская літаратура не проста знаёміла чытача з побытам і духоўным абліччам народа. Яна сама была праяўленнем духоўнай дзейнасці парода, які змагаўся за лепшую долю.

* * *

Кастрычніцкі вецер 1917 года раскрыў гісторыю беларускага народа на новай старонцы: сацыялістычная рэвалюцыя прынесла беларускаму працоўнаму люду сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Беларусь была, як вядома, адной з самых бедных і прыгнечаных ускраін царскай імперыі. Вось што пісалася аб ёй у брашуры, выдадзенай у 1879 годзе:

«Узяць хоць, напрыклад, гаспадарчы побыт і ўмовы жыцця беларусаў. Ёсць на Русі нямала мясцін халодных, галодных, але мала знойдзецца мясцовасцей такіх гаротных і бедных, як Беларусь. «Кепска каля Віцебска,— гавораць самі беларусы,— ля горада Оршы яшчэ горш...» Вельмі бедна, але яшчэ лепш за другіх

жывуць магілёўцы, насельніцтва ж Віцебскай і большай часткі Мінскай здзіўляе асобым, як бы суцэльным убоствам сваіх умоў»[1].

І вось краіна беднасці і непісьменнасці атрымала магчымасць у выніку перамогі Кастрычніка будаваць першую ў свеце дзяржаву сацыяльнай справядлівасці. Перад народам паўстала вялікая мэта, магутны быў яго рэвалюцыйны энтузіязм, а гэта дало мацнейшы штуршок развіццю яго культуры і літаратуры.

Вопыт развіцця беларускай літаратуры за 40 год Савецкай улады засведчыў не толькі жыццяздольнасць, але і вялікія мастацкія магчымасці літаратуры на мове, якая яшчэ зусім нядаўна ігнаравалася як «мужыцкая».

Моўная і ўсякая іншая блізкасць беларускай літаратуры да больш развітай рускай літаратуры ва ўмовах свабоднага, брацкага культурнага ўзаемаабмену сацыялістычных нацый садзейнічала росквіту беларускай літаратуры. Гэтая блізкасць дапамагла хутчэйшаму далучэнню беларускага народа і яго мастацтва да дасягненняў сусветнай мастацкай культуры.

Сама гісторыя абумовіла вялікую цягу беларускай літаратуры да высокай мастацкай культуры, выпрацаванай за многія стагоддзі чалавецтвам. Беларускі народ быў доўгі час пазбаўлены доступу да гэтай культуры. А яго ўласныя духоўныя здабыткі ігнараваліся.

В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, а пазней Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Цётка, З. Бядуля самім фактам творчасці на «мужыцкай» мове выказвалі пратэст супраць ігнаравання духоўнай культуры беларускага народа. Беларускія пісьменнікі добра ўсведамлялі, што яны тым мацней сцвердзяць гістарычнае права беларускай літаратуры на існаванне, чым вышэй будзе культура іх творчасці.

«Я не паэт»,— заяўляў Я. Купала, жадаючы падкрэсліць, што народ і толькі народ гаворыць яго вуснамі. І здавалася, што сапраўды яго вершамі загаварыў сам народ, у якім абудзілася патрэба несці на паказ «крыўду ўсю». Народ перадаў свайму паэту і спрадвечную тугу па высокай духоўнай культуры — вось чаму Я. Купала ўзнімаецца да вышынь вялікага мастацтва так проста і як бы без усякага намагання. За талентам, індывідуальнасцю гэтага паэта адчуваюцца таленавітасць і духоўная моц цэлага народа.

Вельмі энергічна імкнуўся сцвердзіць і проста «даказаць» высокія мастацкія магчымасці літаратуры на «простай» беларускай мове Максім Багдановіч. Ён смела і падкрэслена палемічна ўводзіў у беларускую паэзію традыцыйныя класічныя формы: санет, трыалет, рандо і г. д.

---

[1] Белоруссия и белорусы. Труды и описания педагогического Музея по составлению чтений для войск и народа, Москва, 1879.

Многія сучаснікі былі вельмі ўражаны, што «мужыцкая мова», убраная ў метры Петраркі, нічога парадыйнага ў сабе не заключала. Наадварот, самі гэтыя застыўшыя формы раптам як бы ажылі, засвяціліся, загаварылі з першапачатковай непасрэднасцю.

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ужо колькі тысяч год стаіць магіла:
У гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.
Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух свабодны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў, крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

Хто ведае, магчыма, такімі ж нязвыклымі і нават нязграбнымі здаваліся калісьці сучаснікам санеты, напісаныя «вульгарнай латынню» — жывой народнай італьянскай мовай, якая выцясняла з паэзіі класічную латынь.

Не халодны разлік эксперыментатара, а страсная гуманістычная мысль аб чалавечых правах працаўніка — вось што натхняла М. Багдановіча ў яго мастацкіх пошуках.

Чытаючы такія творы М. Багдановіча, як «Зорка Венера», «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі», «Слуцкія ткачыхі», «Мадона», «Страцім-лебедзь» і іншыя, адчуваеш: гэта вырасла на беларускай глебе, але глеба гэтая сагрэта сонцам, якое ходзіць «па-паўднёваму» высока. Пад такім высокім сонцам паэтычнай культуры на народнай беларускай глебе і вырасла паэзія Максіма Багдановіча.

З гэтым жа імкненнем тварыць разам з народам вялікую перадавую культуру ішлі ў літаратуру і лепшыя савецкія пісьменнікі. К. Чорны пісаў:

«Былы спрадвечны парабак, няшчаснае стварэнне, якому нават не толькі не давалі хлеб пасля катаржнай працы, а нават здзекваліся за тое, што ён гаворыць па-беларуску (так, як паляк, скажам, гаворыць па-польску, немец — па-нямецку), — гэты чалавек цяпер далучаецца да вышэйшых дасягненняў сусветнай культуры. Ён ведае, цэніць і любіць Гётэ і Шэкспіра, Л. Талстога і Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнку і Янку Купалу. Ён ведае і цэніць выдатных дзеячоў культуры больш, чым тыя, хто калісьці яго эксплуатаваў. Бо ён узяў у рукі справу пабудовы новай агульначалавечай культуры і для гэтай справы ён мае ў сваім

распараджэнні ўсё, што стварылі калі-небудзь лепшыя прадстаўнікі чалавецтва»[1].

Пасля Кастрычніка імкненне беларускіх пісьменнікаў да высокай творчай культуры набывае іншы, чым у дарэвалюцыйны час, сэнс і характар.

Культура і літаратура беларускага народа атрымалі прызнанне ў дзяржаўным маштабе. Вядома, не ўсякая літаратура, а тая, што служыць народу. Сама эпоха патрабавала ад мастацтва вялікага рэвалюцыйнага наватарства, якое вырастала б на лепшых традыцыях мінулых вякоў. Такое рэвалюцыйнае наватарства і з'яўляецца вышэйшым праяўленнем творчай культуры. Авалодаць старым і пайсці наперад, шукаць і знаходзіць новыя шляхі ў мастацтве, як гэта рабіў У. Маякоўскі,— хіба не ў гэтым сапраўдная мастацкая культура? Іменна да такой мастацкай культуры імкнулася паэзія, народжаная Кастрычнікам.

Многія з паэтаў 20-30-х гадоў, жадаючы па-новаму выявіць новы змест жыцця беларускага народа, сінтэзавалі верш, звязаны з беларускай фальклорнай традыцыяй, з тым інтанацыйна-асацыятыўным вершам, якім паэт-трыбун Маякоўскі ўзбройваў «атакуючы клас». Такія творы, як «Над ракой Арэсай» Я. Купалы, «Праз горы і стэп» П. Броўкі, «У тыя дні» П. Глебкі, а таксама вершы М. Чарота, А. Александровіча і іншых пашыралі і ўзбагачалі само разуменне нацыянальнай паэтычнай традыцыі.

Вельмі настойліва і палемічна ішоў да новага ў паэзіі А. Куляшоў. Праўда, яго першыя буйныя рэчы («Аманал», «Гарбун») сведчылі толькі аб тым, што паэт настойліва шукае новых шляхоў, але не аб тым, што ён знайшоў іх. Аўтар прымушаў чытача блукаць у свеце вельмі складаных паэтычных асацыяцый, прымушаў яго ўяўленне пераадольваць кампазіцыйныя правалы, але сказаць чытачу што-небудзь па-сапраўднаму значнае паэт яшчэ не мог. І ўсё ж гэтыя незвычайныя па форме паэмы сведчылі аб сіле паэтычнага ўяўлення. І што асабліва важна, талент яго быў звернуты да героікі эпохі. Пошукі новага, ў паэзіі рабіліся тым больш плённымі, чым глыбей пранікаў А. Куляшоў у героіку часу, у душу свайго пакалення. Свой лепшы твор, паэму «Сцяг брыгады» ён стварыў у перыяд, калі ўбачыў, адчуў, перажыў гэтую героіку ў яе вышэйшым драматычным напружанні.

Паэма «Сцяг брыгады» з'явілася этапным творам не толькі ў творчай біяграфіі А. Куляшова. Яна прымусіла па-новаму паглядзець на паэтычную прыроду беларускага верша, на яго магчымасці. Паэма «Сцяг брыгады» і другія творы А. Куляшова, таксама як і лепшыя творы М. Танка, П. Панчанкі, П. Броўкі, П. Глебкі, А.

---

[1] К. Ч о р н ы. Збор твораў, т. VI, стар. 285

Зарыцкага, А. Бялевіча, М. Лужаніна, А. Вялюгіна, В. Віткі, У. Дубоўкі, М. Аўрамчыка і іншых, сведчаць, што ў сучаснай беларускай паэзіі мяняецца не толькі кола паэтычных асацыяцый у адпаведнасці з абнаўленнем самой рэчаіснасці, але што і сам характар паэтычных асацыяцый мяняецца. Для сучаснай беларускай паэзіі характэрна імкненне да мастацкага падтэкста. Сучасны беларускі паэт верыць у здольнасць яго чытача пранікаць у самы багаты ўнутранымі асацыяцыямі паэтычны свет. У А. Куляшова, напрыклад, важным кампазіцыйным прыёмам з'яўляецца «фігура ўмоўчання», кожная паэтычная дэталь у яго ёмістая, падкрэсленая, абагульняючая.

А між тым чытач, на якога арыентуецца сучасная беларуская паэзія,— масавы, сапраўды народны чытач. Да гэтага народнага чытача паэзія наша звяртаецца з вялікім багаццем часамі даволі складаных асацыяцый, бо гэты новы чытач — па-сапраўднаму культурны, непараўнаўча больш эстэтычна развіты, чым чытач дарэвалюцыйны. Вось праз якую вобразнасць выяўляе А. Куляшоў свае ўяўленні і адносіны да рэчаіснасці:

Не цвёрдая у бомбы слава,
Гразіцца ёю зарана.
Не хітрая, урэшце, справа
Адолець атам урана.
Мы большыя справы рабілі,
Не робячы з іх сакрэту,
У семнаццатым расшчапілі
Мы атам старога свету.

(«Слова да Аб'яднаных Нацый»)

У такую не простую вобразнасць народны чытач пранікае вельмі лёгка, бо сёння і «рэвалюцыя» і «атам» для яго такія ж блізкія паняцці, як і традыцыйныя фальклорныя «сонейка», «зорка», «зямелька-матухна». Такім чынам, вельмі багатая асацыятыўная вобразнасць сучаснай беларускай паэзіі не самамэта, а натуральны вынік змен у жыцці і светаразуменні самога народа. Не адрывае, а набліжае да народа паэзію такая вобразнасць. Тым самым і разуменне народнасці літаратуры ўзбагачаецца.

І традыцыйную паэтыку сённяшняя літаратура выкарыстоўвае, трансфармуе па-новаму. У паэме «Сцяг брыгады», напрыклад, рэчы, прадметы размаўляюць з лірычным героем. Прыём, які шырока выкарыстоўваецца ў фальклоры. Але ўслухайцеся ў словы лялькі, якая просіць і яе ўзяць з сабой у дарогу.

Лялька гэтак сказала:
— І я не пайшла да вакзала...
Цягам доўгіх начэй,
Не закрыўшы вачэй,
Хіба мала
Я дачкі тваёй сон пільнавала,

Калі яна спала?..
Гаспадар, ты падай мне руку
І не стой на парозе,
І вядзі, як дачку,
У натоўпе людскім па дарозе.
Дзецям ногі баляць, іх дарога цяжкая стамляе,
Я ж слухмяна пайду за табою, бо я нежывая.
Дзеці просяць то есці, то піць,
Пыл сухі ім раты забівае,
Я ж не буду прасіць,
Бо я лялька, бо я нежывая.
Самалёты ляцяць адусюль,
Дзецям смерць пагражае,
Не баюся я куль,
Не баюся, бо я ж нежывая…
Адпачыць па дарозе захочаш,
Адыдземся ў пушчу,
Буду сон твой ахоўваць ахвоча,
Вачэй не заплюшчу,

Нельга не адчуць, што такая высокая культура пачуццяў немагчыма была б без засваення вялікай літаратурна-паэтычнай традыцыі. (І не толькі беларускай традыцыі). З улікам гэтай традыцыі і выкарыстоўвае А. Куляшоў фальклорныя матывы.

У 30-я гады А. Куляшоў заклікаў: глядзець на справы будаўнікоў сацыялізма вачыма нашчадкаў, умець бачыць іх так, як будуць бачыць іх праз некалькі дзесяцігоддзяў. Гэты прынцып дапамагаў паэту адчуць галоўнае ў сваім гераічным часе. І вось у сваіх пасляваенных творах («Толькі ўперад», «Песня аб слаўным паходзе», «Грозная пушча») А. Куляшоў з той будучыні, аб якой марыў, глядзіць на пачатак шляху свайго пакалення. Таму што:

Наш год, наш возраст самый тот,
Что службу главную несет.

(Гэтыя радкі А. Твардоўскага паэт абраў у якасці эпіграфа да паэмы «Толькі ўперад»). Не, не адыходзіць у мінулае паэт. Яму толькі трэба, каб яго пакаленне, якое ўзбагацілася нялёгкім жыццёвым вопытам, магло зноў убачыць пачатак свайго шляху, зноў перажыць гераіку гэтага шляху, праверыць ёю сённяшні дзень. Учора — барацьба з кулаком і дыверсантам, сёння — са светам капіталізме, узброеным атамнай бомбай; учора — рамантыка першай трактарнай баразны, сёння — заваёванае ў крывавай схватцы з фашызмам права быць першай па магутнасці краінай на планеце; учора — маладыя свежыя пачуцці, сёння — вялікі душэўны вопыт, але душа пакалення па-ранейшаму маладая. У паэзіі А. Куляшова ў адно зліты і ўспаміны аб мінулым, і справы сённяшнія, і накіраванасць у будучыню. Гераіка, рамантыка — гэтая адметная рыса паэзіі А. Куляшова — нараджаецца з адчування

руху наперад — праз страты, памылкі, гора і радасці але — «толькі ўперад». Знамянальны для ўсёй паэзіі А. Куляшова вось гэтыя радкі з «Песні аб слаўным паходзе»:

Паход самой гісторыі,
Праўдзівасці самой,
Паход на тэрыторыі,
Заселенай бядой…
Паход… Няхай жыве паход,
Каторым падымаецца
На бой людскі паўстаўшы род,
Каторым ноч знішчаецца,
Бяда перамагаецца,
Зямля ўся вызваляецца,
Мір людзям здабываецца…—
Няхай жыве паход!

Гаворачы аб вобразна-асацыятыўных зменах у беларускай паэзіі, мы маем на ўвазе ўзбагачэнне, пашырэнне нацыянальных традыцый, а не адыход ад іх. А гэта пашырэнне пачалося ўжо ў вершах класікаў беларускай літаратуры, асабліва ў паслярэвалюцыйнай паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа.

Што датычыцца беларускай паэтычнай традыцыі, якая грунтуецца на фальклоры, то яна ў сучаснай беларускай паэзіі моцная па-ранейшаму. Не проста ўнутраная сувязь, але адкрытая пераклічка з народнай творчасцю застаецца адметнай якасцю вершаў М. Танка, П. Броўкі, П. Панчанкі, А. Бялевіча, М. Лужаніна, М. Калачынскага, таго ж А. Куляшова і многіх другіх.

Цікавы ў гэтым плане і апошнія цыклы вершаў П. Броўкі («Полымя» № 6 і № 12 за 1958 г.). Такія вершы, як «Пахне чабор», «Белы барабаншчык» і др. сведчаць аб невычэрпных мастацкіх магчымасцях паэзіі, якая абапіраецца па паэтыку беларускага фальклору.

Вельмі цесна звязана з пароднай творчасцю паэзія М. Танка. Гэты паэт умее любую традыцыю (і фальклорную і тую, што ідзе ад Маякоўскага) падпарадкаваць свайму моцнаму паэтычнаму тэмпераменту, прымусіць яе загучаць «па-танкаўску».

М. Танк — паэт высокага пафасу. Для гэтага мастака рэвалюцыйная барацьба — не толькі гераічнае мінулае бацькоў. Біяграфія М. Тапка склалася так, што паэт сам прайшоў праз выпрабаванні рэвалюцыйнага падполля. Магчыма, таму столькі ў М. Танку ад паэта-трыбуна. Ён ні аб чым не ўмее гаварыць без пафасу, а пафас яго сапраўдны, народжаны пераконанасцю. Праўда, не заўсёды пафас гэты арганізаваны талентам паэта дастаткова моцна: побач з паэтычнымі шэдэўрамі ў М. Танка часам сустракаюцца вершы, дзе ёсць паэтычныя правалы, рыторыка («І таму мы пяём», «Ён жыве», «Украіна»), Але не гэтыя вершы вызначаюць

агульны ўзровень і характар паэзіі М. Танка. Пасляваенныя зборнікі яго — «Каб ведалі», «На камні, жалезе і золаце», «У дарозе», «След бліскавіцы» — сведчаць аб тым, што моцны і на дзіва чысты (хочацца сказаць — «нравственный») талент гэтага паэта ўсё больш граніцца і шліфуецца, узнімаючы агульны ўзровень — грамадскі і эстэтычны — сучаснай беларускай паэзіі.

Літаратура набывае агульначалавечае значэнне не тады, калі мастак стараецца дагадзіць густам усіх і калі ён гоніцца за «модай веку», як гэта здаралася ў 20-я гады, калі ад «бессвядомай павагі да мастацкай моды, што пануе на Захадзе» (У. І. Ленін), некаторыя нашы паэты захапляліся паэтыкай мадэрнізма. Не мода, а «тэарэтычная праўда века» (М. Горкі) робіць мастацтва сапраўды сучасным, укладам у агульначалавечую культуру. 20-е стагоддзе — эпоха руху чалавецтва да камунізма. Тое з'яўляецца сапраўды значным сёння ў мастацтве і тое застанецца надоўга, што народжана гэтым рухам, раскрывае яго складанасць і яго гуманістычную сутнасць.

Гэтую ісціну добра пацвярджаюць вершы аб заграніцы М. Танка і П. Панчанкі.

«Турысцкая» нізка вершаў М. Танка ўвайшла ў яго апошні зборнік «След бліскавіцы». М. Танк не проста праехаў праз «чужыя землі» — ён вядзе чытача і праз мінулае гэтых народаў, праз гісторыю іх культуры. І пра ўсё ў вершах М. Танка апавядаецца ад імя сучасніка, чалавека нашых дзён. Паэт любуецца калонамі рымскага храма, пераносіцца думкай у глыбіню вякоў, але ён не можа «прабыць хоць паўгадзіны воддаль» ад падзей, якія хвалююць чалавека сёння.

Хутчэй старонкі «Уніта» гартаю:
Суэц,
Алжыр...

(«Форум Раманум»).

Было б ненатуральна, калі б у «Вершах з дарогі» не адчувалася звычайнай турысцкай цікаўнасці да ўсіх тых новых мясцін на зямлі, якія паэту давялося ўбачыць упершыню. І яна, гэтая «турысцкая» цікаўнасць, свеціцца ў многіх вершах М. Танка, яна вядзе паэта на «месца гульняў парыжанаў», прымушае падоўгу стаяць каля «Акварыума неапалітанскага», глядзець на Трыумфальную арку і г. д.

Цікаўнасць турыста прывяла паэта ў Булонскі лес. Да сцяны ж, дзе былі расстраляны камунары («Пэр-Ляшэз»), яго прывяло сэрца.

Паэт не прыймае Парыжа «вогненных рэклам над банкамі, над барамі начнымі». Ён востра адчувае — ёсць другі Парыж — «рабочых порта і Рэно».

У сэрцы М. Танка ўвесь час жыве туга па «засені наднарачанскага бору», па «красе непаўторных пастораў Радзімы». Любоў паэта да сваёй Радзімы зліта ў сэрцы яго з пачуццём блізкасці да працоўнага чалавека іншых краін: яму балюча за Грэцыю («хоць, здавалася б, гэта зямля не мая, а чужая»), у ім абуджаецца трывога за лёс стамбульскіх сяброў «насільшчыкаў, грузчыкаў, муляраў», бо паэт бачыць амерыканскую эскадру ў Басфоры:

Ці не задумалі гаспадары і госці
Якую правакацыю? Глядзіце лепш, сябры…
(«Стамбул»).

Паэт адчувае сябе прадстаўніком народа, на які гісторыя ўсклала высокую адказнасць за лёс чалавецтва. Іменна таму яго погляд на жыццё такі шырокі, такі багаты духоўны свет яго лірычнага героя. Як на багацце ўсяго чалавецтва, як на сваю спадчыну, глядзіць паэт на помнікі антычнай культуры, на Рэмбрандта, на плаціны, узведзеныя працавітым галандскім народам. Яму сумна бачыць зямлю былой Элады «без лясной, травяной зеляніны зусім»:

Як скарынка лімона,
І зморшчаная, і рудая…

Яму балюча, бо

На калонах, што Фідзія помняць
Натхнёны разец,
Бачыш варвараў нашага часу
Імёны і даты.
(«У краіне міфаў»).

І іменна таму, што гістарычныя, культурныя здабыткі ўсяго чалавецтва дарагія савецкаму чалавеку, ён — непрымірымы вораг капіталізма.

Капіталізм!
Каланіялізм!..
Не, мы не павінны слоў гэтых пакінуць
У спадчыну свету, каб ён не загінуў!
(«Амстэрдам»).

«Турысцкія» вершы М. Танка вызначаюцца своеасаблівай пабудовай, маюць свае адметныя жанравыя якасці. Самае агульнае для ўсіх гэтых вершаў тое, што ў іх увесь час адчуваецца «пульс гісторыі», Пад'язджаючы да Галандыі, паэт міжволі ўспамінае Рэмбрандта, Парыж у яго ўяўленні — гэта перш за ўсё «сцяна камунараў», а таксама Луўр, на парозе Афін паэт не можа не думаць пра Эладу. Аднак погляд паэта ў глыбіню вякоў, на помнікі культуры — гэта пачатак размовы аб сучаснасці. Ды яно і зразумела. Нічога агульнага няма ў сучаснай буржуазіі з героікай і культурай мінулых вякоў. Што агульнае паміж Рэмбрандтам і той «фармалісцкаю мазнёй», якой «заплямлены» Амстэрдам? Паэту «неяк сумна, што Грэцыі вобраз рэальны з яго «ўяўленнем былым

нават рысаў супольных не мае». Паэт ведае, што калі жыве ў Грэцыі «дух гераічнай Элады», то ён — у подзвігу камуніста Белаяніса («У краіне міфаў»). Вельмі характэрны для ўсяго цыкла ў сэнсе мастацкай пабудовы верш «Гібралтар». Пачынаецца ён з чыста турысцкіх замалёвак: «люстра вады без маршчын», «бераг гарысты іспанскай зямлі». І тут вельмі да месца такі кніжны «вобраз Іспаніі».

А за туманам, здаецца, ты бачыш:
Рыцар Ламанчскі над кручаю скача,
Бачыш жалезныя латы і шчыт,
Піку, якая падперла блакіт...

Але гэта толькі «падступ да тэмы», да сучаснасці. Сённяшні Гібралтар — гэта не наіўныя грэчаскія «слупы Геркулеса»: «... Гібралтар вырастае прад намі з крэпасцю, складамі і караблямі...», Гібралтар — гэта

Прагная пашча брытанскага льва,
Льва, чые век ненасытныя вочы
Пільна, трывожна за Афрыкай сочаць.

«Трывожна» — вельмі дакладна сказана аб сённяшнім дні, калі самая калісьці «спакойная плантацыя» каланізатараў, «чорны, як порах, сухі кантынент» робіцца полем бітвы народаў за свабоду.

Так урываецца сучаснасць у верш, і яна падпарадкоўвае сабе і самую традыцыйную вобразнасць яго. Калі ў канцы верша паэт гаворыць пра «горны краж»;

...як быццам бы ўскінуў
На прывітанне маё у адказ
Чорныя,
дужыя рукі Атлас,

то вобраз антычнага героя, які трымае неба на руках (але на «чорных» руках!), успрыймаецца намі ўжо як сімвал магутнасці «чорных ад гневу мільёнаў рабоў».

Вельмі цікава бачыць, як «па-сучаснаму» жывуць у вершах М, Танка вобразы і матывы, звязаныя з працяглай культурнай і паэтычнай традыцыяй. Такое даецца толькі таму, хто арганічна ўспрыняў гэтыя традыцыі і разам з тым усімі помысламі жыве ў сучаснасці, а таму здольны актыўна, творча ставіцца да традыцыйнага матэрыялу.

Доказам вялікіх паэтычных магчымасцей М. Танка могуць служыць вершы яго «Ave Maria» і «Венера Мілоская». Чытаючы загаловак другога верша, нават баішся за паэта: а ці зможа ён сказаць сваё слова аб тым, што ўслаўлена і апета столькімі мастакамі? і тое пачуццё, якое выклікае верш М. Танка «Венера Мілоская», блізкае да пачуцця радасці і нават гордасці за паэта: знайшоў! Знайшоў сваё, нікім яшчэ не сказанае і не ўбачанае! Колькі спроб было ўявіць бязрукую багіню прыгажосці такой, якой

яна выйшла з-пад разца Агесандра. М. Танк жа іменна ў тым, што багіня не мае рук, знайшоў свой паэтычны ключ да тэмы.

Бачу — ідзе яна лёгкай хадою.
Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла,
Каб перад небам і перад зямлёю
Грудзі свае імі не засланіла.

На такім жа высокім паэтычным ўзроўні і верш «Ave Maria».

Дарэчы, супастаўляючы лепшыя творы М. Танка з менш удалымі, такімі, напрыклад, як верш «Капры», адчуваеш, у якім напрамку магло б павышацца майстэрства паэта. У вершы «Капры» няма таго паэтычнага адкрыцця, сапраўды паэтычнай думкі, якой радуе нас. «Венера Мілоская», а таму ён мнагаслоўны. Простае апісанне вострава Капры і мясцін, звязаных з імем Горкага, яшчэ не дае мастацкага твора. Так убачыць Капры здольны ўсякі турыст. Паэт павінен быў паглядзець інакш, так, каб звычайны жыццёвы факт стаў фактам мастацтва, багатым унутраным зместам. Мастацкі твор В. Г. Бялінскі параўноўваў з арганізмам, які жыве сваім, не залежным ад аўтара жыццём. Прыкладам такога завершанага, самастойнага паэтычнага «арганізма» можа з’яўляцца верш «Ave Maria».

Уражанні, якія складаюць змест верша «Капры», выпадковыя і павярхоўныя. Інакш напісаны верш «Ave Maria»: паэт як бы міжвольна спыніўся перад манашкай, глыбока ўражаны кантрастам паміж яе маладой прыгажосцю і «жалобнай вопраткай чорнай». І з гэтага бярэ пачатак надзвычай чалавечная і паэтычная думка верша.

Манашка, якой «не больш, хіба, як семнаццаць маеў», глядзіць набожна «на крыж Пятровы», а паэт «моліцца» на яе бровы».

Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія —
Ave Maria!

Між іншым, у многіх вершах М. Танка апошняга часу («Добры дзень», «Сентыментальная трагедыя» і г. д.) заўважаецца ўзмацненне гумарыстычных інтанацый. Гумар М. Тапка своеасаблівы — у ім надзвычай многа страсці, бо М. Танк наогул — паэт, які не ўмее размаўляць без пафасу. А там, дзе многа паэтычнай страсці, гумар вельмі лёгка пераходзіць у сарказм, што таксама характэрна для вершаў М. Танка.

Нешта «гейнеўскае» ёсць у гэтым спалучэнні страсці, пафасу з той смеласцю, лёгкасцю і адначасова чысцінёй, з якой умее сказаць паэт аб «грудзях тугіх», аб «стане непакорным» маладой манашкі.

Асаблівы склад таленту ў П. Панчанкі. Гэта паэт, верш у якога «падступае да горла», вырываецца, як боль, гнеў ці як радасць,

любоў з самых глыбінь душы. Так страсна напісана і «Патрыятычная песня»:

Саборы збудованы хітра і з толкам:
І ловяць, і страшаць, і глушаць цябе…
Я бачыў цябе, рымскі папа, ды толькі
Размовы не вёў.
Дык дазволь хоць цяпер.
Дымяць у Неапалі крэйсераў трубы,
І сцяг паласаты калышуць вятры.
Ляжаць у Пампеях каменныя трупы,
Адрытыя там ля падножжа гары.
…Везувій маўчыць, не дыміцца: стары ён,
Яму надакучыла выбухаў муць.
А хто ж тваю паству і Рым твой адрые,
Калі з Вашынгтона віхуры падзьмуць?

Надзвычайная паэтычная шчырасць, грамадзянская страснасць, якая арганізуецца моцным талентам — вось паэзія П. Панчанкі.

Вершы паэта — і тыя, што былі гарачым водблескам Айчыннай вайны («Іранскі дзённік» і др.), і яго лепшыя пасляваенныя творы (зборнікі «Шырокі свет», «Кніга вандраванняў і любові») — гэта вялікая літаратура, літаратура глыбокіх пачуццяў, думак, ідэй, мастацкіх адкрыццяў.

Новы буйны твор Гі. Панчанкі «Патрыятычная песня» — адзін з прыкладаў таго, як пашырае сацыялістычная рэчаіснаць ідэйнатэматычныя і мастацкія гарызонты беларускай літаратуры.

Да сапраўдных мастацкіх вяршынь літаратура не можа ўзняцца, калі яна адрываецца ад нацыянальнай глебы. На прыкладзе заходняга абстракцыянізма можна бачыць бясплоднасць мастацтва, якое ігнаруе канкрэтнае, нацыянальнае.

Сацыялістычны рэалізм, які з'яўляўся і з'яўляецца магістраллю развіцця беларускай савецкай літаратуры, мае глыбокія карэнні ў нацыянальным геніі народаў, што пракладваюць гістарычныя шляхі ў камунізм. Сучасная беларуская літаратура, якую ніяк не абвінаваціш у нацыянальнай абмежаванасці ці «правінцыялізме», вельмі цесна звязана з лепшымі традыцыямі беларускай культуры, з мінулым, сучасным і будучым беларускай сацыялістычнай нацыі. За творамі беларускіх пісьменнікаў — духоўнае аблічча, склад пачуццяў, светаадчуванне беларускага савецкага народа, свабодалюбівага народа-партызана, які заўсёды першым сустракаў чужынцаў з Захада і апошнім праводзіў іх з зямлі рускай, які працай сваёй столькі разоў з попелу ўздымаў гарады і вёскі свае. За гэтымі творамі — край зялёных жытнёвых даляў, асфальтаваных дарог з бярозавымі прысадамі, край асушаных калгасных тарфянікаў, цеплавых электрастанцый, традыцыйных белавежскіх зуброў, якія

ахвотна «прыжыліся» і на радыятарах беларускіх самазвалаў, край цудоўнай народнай творчасці, якая дала свае фарбы не толькі беларускім мастакам. Прадаўжаючы традыцыі Я. Купалы і Я. Коласа, беларускія паэты імкнуцца быць голасам свайго гераічнага народа, голасам праўдзівым і моцным.

* * *

Рост беларускай літаратуры ў савецкі час выявіўся і ў развіцці іншых жанраў, у прыватнасці празаічных. Тут былі свае заканамернасці.

Беларуская проза рабіла свае першыя крокі, абапіраючыся на вопыт, на стылістычныя формы больш развітай беларускай паэзіі.

Захапленне «паэтычнай прозай» адпавядала нейкім запатрабаванням часу, інакш яно не магло б быць такім моцным.

Перш за ўсё трэба мець на ўвазе, што беларуская савецкая літаратура зараджалася як глыбока дэмакратычная літаратура, якая карэннямі сваімі ўваходзіла ў народнае мысленне. У паэтычнасці беларускай прозы выяўлялася блізкасць яе да фальклорнай традыцыі. Але справа не толькі ў гэтым. Для паслярэвалюцыйнага часу наогул характэрны былі пошукі падкрэслена эмацыянальнага «стылю эпохі», эпохі шматфарбнай, дынамічнай.

Складанасць праблемы заключаецца ў тым, аднак, што «паэтычная проза», у адных выпадках з'яўляючыся вельмі станоўчай, арганічнай якасцю стылю пісьменніка, у другіх выпадках была толькі праяўленнем гістарычнай жанравай няспеласці беларускай прозы. «Празаічная традыцыя» ў беларускай літаратуры была вельмі нязначнай: апавядаючы аб жыцці, беларускія празаікі (асабліва маладыя) непазбежна то ўхіляліся ў бок натуралістычнага бытапісальніцтва, то паддаваліся гіпнозу паэтычных стылёвых форм, якія распрацаваны былі значна лепш.

Паэтычнасць з'яўлялася важнай асаблівасцю і моцнай якасцю прозы Я. Коласа і З. Бядулі.

Імкненне да наватарства характарызавала творчасць маладых пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру пасля Кастрычніка. І гэта зусім натуральна, асабліва для такой «наватарскай», рэвалюцыйнай эпохі. Праўда, часам наватарства маладых аказвалася празмерна павярхоўным і закранала не столькі метад мастацкага асваення свету, колькі тэму і чыста апавядальную, моўную абалонку літаратуры. Не ўніклі многія маладыя празаікі чыста стылізатарскага захаплення і «паэтычнай прозай». Вядома, што для некаторых пісьменнікаў, для М. Лынькова напрыклад, эмацыянальна-рамантычны стыль быў арганічны. Але і стылізатарства ў прозе было нямала.

Вось супраць гэтай стылізацыі пад паэтычную манеру і выступалі ў 20-я і 30-я гады такія празаікі, як К. Чорны, К. Крапіва і другія прыхільнікі прозы эпічнай, аналітычнай, «незалежнай» ад паэзіі.

К. Крапіва не баяўся смелага слова, свядома імкнуўся да вострага сутыкнення «нізкіх» і «высокіх» паняццяў. Яго апавяданні і раман «Мядзведзічы» напісаны ў стылі падкрэслена бытавым. У яго апавяданнях асабліва адчуваецца імкненне разбурыць традыцыйную «паэтычную» вобразнасць. Вось малюнак вясны:

«Прыляцелі аб'яднаныя ў прафсаюзы гракі і распачалі гаспадарчае будаўніцтва, дзеля чаго наладжваюць мнагалікія сходы і вядуць на іх гарачыя спрэчкі.

Дробнабуржуазная варона зусім абалдзела ад іх ляманту і валтузні і не ведае, якую платформу заняць ёй у адносінах да суседзяў»[1] і г. д.

К. Чорны не выступаў супраць эмацыянальнасці, бо і сам быў мастаком вялікіх страсцей, але К. Чорны лічыў, што проза мае і павінна мець свае сродкі эмацыянальнасці, што яна не павінна жывіцца стылістыкай, якая больш адпавядае паэтычным жанрам. Без гэтага, лічыў К. Чорны, няма сапраўднай празаічнай культуры.

У беларускую літаратуру ў пасляваенны час прыйшлі пісьменнікі вельмі розныя па таленту. Пачуццё вялікай інтымнасці ў адносінах да сваіх герояў афарбоўвае творы Я. Брыля аб Айчыннай вайне («Нёманскія казакі», «Мой зямляк», «Адзін дзень» і др.); І. Шамякін, аўтар «Глыбокай плыні», шукае мастацкага вырашэння тэмы ў раскрыцці драматызма падзей, у стварэнні рамантызаваных характараў; І. Мележ у «Мінскім напрамку» імкнецца да шырыні, эпічнасці ваенных панарам; бытавая праўда, самая драматычная праўда вайны, усё падпарадкоўвае сабе ў творах А. Кулакоўская («Расстаемся ненадоўга», «Перад узыходам сонца»).

Цікава адзначыць, што пасляваеннае пакаленне беларускіх празаікаў таксама злоўжывала крайнасцю, але гэта ўжо была не «паэзія ў прозе», а бытавізм і празмерная, натуралістычная псіхалагізацыя. Заўважалася ў маладых празаікаў (асабліва ў першыя гады пасля вайны) тэндэнцыя перагружаць свае творы, хоць часам і яркім, але не зусім абавязковым, выпадковым бытавым і псіхалагічным матэрыялам. Гэта і натуральна: усё перажытае ў цяжкія і гераічныя гады вайны ярка зафатаграфавалася ў памяці і здавалася маладым аўтарам аднолькава важным і значным. Было тут і проста няўменне будаваць кампазіцыю.

Але проза наша ўжо вызваляецца ад гэтай падпарадкаванасці жыццёваму матэрыялу, авалодвае ім. Пры гэтым усё

---

[1] К. Крапіва, Збор твораў, 1956, т. II, стар. 8.

больш багата і ярка праяўляецца творчая індывідуальнасць беларускіх празаікаў. І. Шамякін умее быць уважлівым да самых інтымных перажыванняў сваіх герояў і адначасова бачыць тую «грамадскую плынь», якая вызначае лёс асобных людзей. У гэтым рамане І. Шамякіна, а таксама ў яго апошніх аповесцях («Непаўторная вясна», «Начныя зарніцы») добра раскрылася ўменне будаваць яркі, дынамічны сюжэт на характарах, перажываннях людзей, уменне цікава весці апавяданне.

Аповесці «Нявестка» і «Перад узыходам сонца» А. Кулакоўскага, раманы У. Карпава «За годам год», А. Чарнышэвіча «Світанне», апошнія творы І. Мележа, І. Грамовіча, М. Лупсякова, Р. Сабаленкі, Я. Васіленка, І. Дуброўскага, А. Васілевіч і другія творы апошніх год узбагачаюць наша ўяўленне аб беларускай літаратуры.

Цікавым з'яўляецца новы паварот пасляваеннай беларускай прозы (у творчасці Я. Брыля, М. Лынькова, П. Броўкі, Я. Скрыгана і др.) да традыцыі «паэтычнай прозы». Проза беларуская, якая ў канцы 20-х і ў 30-я гады як бы імкнулася «адарвацца» ад паэзіі, каб выпрацаваць свае моўныя і сюжэтна-кампазіцыйныя сродкі,. сёння зноў вяртаецца да яе, але вяртаецца ўзмужнелай, як роўная да роўнай, моцная ўласнай аналітычнай, псіхалагічнай традыцыяй. Ва ўсякім разе няма ў сучаснай, багатай творчымі індывідуальнасцямі прозе таго стылёвага антаганізма, узаемнага адштурхоўвання прозы «паэтычнай» і прозы аналітычнай, што заўважалася ў 20-30-я гады.

Няма сёння прозы падкрэслена палемічна аналітычнай, але затое няма і штучнага стылізатарства пад паэтычную стылістыку.

Крайнасці зняты часам, вопытам.

Сучасная беларуская «паэтычная проза» выкарыстала вопыт прозы псіхалагічнай, аналітычнай.

У прозе Я. Брыля, напрыклад, знойдзем свой, вельмі яркі сінтэз паэзіі і аналіза: за паэтычнай, лірычнай атмасферай яго твораў адчуваецца самае ўдумлівае пранікненне ў глыбіні чалавечай псіхалогіі.

У прозе Я. Брыля ўсё здзіўляюча ўраўнаважана: нацыянальная яркасць матэрыялу і вялікая культура чалавеказнаўства, эмацыянальнасць і разважлівасць, лірызм і пластычнасць малюнка. Проза Я. Брыля характарызуецца добрай адшліфаванасцю, але шліфоўка не пазбаўляе яго творы ўнутранай сілы, яны вельмі сакавітыя па фарбах. Аповесці і апавяданні Я. Брыля «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Галя», «Надпіс на зрубе», «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», «Сірочы хлеб» і іншыя — добры прыклад таго, што ў літаратуры можна быць вельмі нацыянальным без таго цягучага, нуднага бытапісальніцтва, якому аддаюць даніну некаторыя нашы раманісты.

Вартасці прозы Я. Брыля як прозы «паэтычнай» у тым, што ў творах яго няма і намёку на стылізацыю.

Я. Брыль зусім не стараецца, каб фраза яго гучала «паэтычна», наадварот, ён змагаецца з усякай распеўнасцю. Але ён так любіць сваіх герояў, тых, што ўзяты з гушчы народнай, ён так непасрэдна адчувае паэзію самога жыцця, нашага жыцця, што гэтая паэзія сама сабой пачынае гучаць у яго творах, у яго фразе.

«Збылося!

Трактар спыніўся. Рокат замоўк.

Галя ўстала і адышла да акна. Міжвольнымі рухамі рук яна адразу паправіла валасы, пасля — таксама міжвольна— закрыла рукамі твар.

Сяргей ідзе. Яшчэ ўсё малады, як і ў той час, толькі цяпер — у сінім заплямленым камбінезоне, з пшанічным чубам над блакітнымі вясёлымі вачыма, з кепкай у левай руцэ. Вось-вось зашалясціць пад яго ботамі росная трава, захрупае жвір каля прызбы, пацягнецца да шыбы родная рука, застукае ціхенька ў шкло і — кончыцца ўсё, што было… Ідзі, ідзі, я чакаю даўно… ой, даўно!

Ды што гэта!..

Ну, а ты думала — што?..

Трактар гудзе ізноў. І гэты гул цяпер штораз — далей. Як гэта проста ўсё, як зразумела, што ён завярнуўся,— і як гэта страшна!.. Сядзь і сядзі каля акна. Хочаш — крычы, а хочаш — маўчы, пазірай. Ёсць і яшчэ адно, што табе засталося — заплач»[1].

Музыкальнасць прозы Я. Брыля ўзнікае з умення мастака ўслухоўвацца ў «музыку» самога жыцця. Рэзкім дысанансам урываюцца ў яе пакуты людзей, жорсткасць, пошласць, неўладкаванасць душэўная, але над усім гэтым пануе лейтматыў неперамožнага імкнення чалавека да шчасця, свету, чысціні.

Унутраная мастацкая мэтанакіраванасць Я. Брыля да самага светлага ў рэчаіснасці робіць гэтага пісьменніка асабліва непрымірымым да ўсяго, што можа запаганіць, забрудзіць яе: да ўласніцтва, мяшчанства, бюракратызма.

Пісьменнік праўдзіва паказвае і ценявыя бакі нашай рэчаіснасці, але гэта не зніжае, а ўзмацняе жыццесцвярджальны пафас яго твораў. Якраз у барацьбе з недахопамі, у пераадоленні цяжкасцей выяўляецца ўнутраная моц нашага ладу. Чым ярчэй свеціць сонца, тым больш рэзка выступаюць цені, але хіба яны могуцьператварыць дзень у ноч?

У нашай крытыцы вельмі часта сталасць беларускай прозы падкрэсліваецца тым, што жанр рамана заняў у ёй вядучае месца. Сапраўды, ступень развіцця «эпасу нашага часу» (В. Г. Бялінскі)

---

[1] Я. Брыль. На Быстранцы, 1955, стар. 201.

вельмі важны крытэрый, якога нельга не ўлічваць пры характарыстыцы любой сучаснай нацыянальнай літаратуры. А для ўсякай маладой літаратуры раман — гордасць. Але нельга ў гэтым пачуцці быць празмерна наіўным, асабліва цяпер, калі беларускія раманы так часта друкуюцца ў перакладзе па рускую мову і выносяцца на суд вельмі патрабавальнага саюзнага чытача. А між тым пачуццё меры ў нас захоўваецца далёка не заўсёды. Нядаўна выйшла ў свет брашура Д. Палітыкі «Беларуская пасляваенная проза». Калі меркаваць па гэтай брашуры, дзе ўсе творы ацэньваюцца ў залежнасці толькі ад тэмы і добрых намераў аўтараў, то няма ў пасляваеннай беларускай літаратуры ні аднаго рамана (за выключэннем яўных «зрываў»), які не быў бы вяршыняй развіцця гэтага жанра.

Згодна погляду аўтара брашуры кожны наступны раман з'яўляецца больш значнай мастацкай з'явай у параўнанні з ранейшымі раманамі толькі таму, што ён асвойвае больш блізкі нам па часу жыццёвы матэрыял і з улікам тых змен у ідэалагічным жыцці, якіх не мог улічыць аўтар-папярэднік. Няма патрэбы даказваць, што гэта празмерна спрошчаны погляд на мастацтва.

Безумоўна, пасляваенны беларускі раман увабраў вельмі важны народны вопыт, вопыт Айчыннай вайны і мірнага будаўніцтва апошніх цяжкіх і гераічных пятнаццаці гадоў, і гэта значны ўклад у нашу мастацкую культуру. Але нельга не ўлічваць, што большасць нашых сучасных раманістаў — гэта маладыя таленты, якія толькі-толькі склаліся. Лепшыя іх дасягненні — наперадзе.

І вельмі добра робяць тыя з нашых сучасных раманістаў, якія, не верачы ў тое, што яны ўжо пераўзышЛі і Коласа і Чорнага, настойліва вучацца ў класікаў літаратуры. Добра тое, што такія празаікі, як І. Шамякін, І. Мележ больш уважліва пачынаюць ставіцца да мовы.

Нельга не заўважыць, што інтэлектуальна-філасофскі ўзровень некаторых нашых нават вельмі папулярных раманаў не заўсёды сапраўды высокі. А новаму твору такога вопытнага літаратара, як Т. Хадкевіч, раману «Даль палявая», вельмі шкодзіць апісальнасць. Аб гэтым чамусьці не гаворыцца ў поўны голас. Першае патрабаванне да мастацкага твора: ён павінен чытацца. Ці не замнога ў нас з'яўляецца твораў, якія цяжка дачытаць да канца? Не заўважаць недахопаў нашай літаратуры, значыць не турбавацца па-сапраўднаму за яе поспехі, не думаць аб руху да новых дасягненняў.

Цікавая з'ява ў беларускай прозе — пастаяннае, пачынаючы ўжо з 20-х гадоў, імкненне да вялікіх сацыяльна-гістарычных палотнаў, да эпічнага размаху. Тое, што характэрна для ўсёй савецкай літаратуры, у маладой беларускай прозе абумоўлена было і нечым сваім. Імкненне асэнсаваць і паказаць шырокаму чытачу

гістарычныя шляхі народа, які так доўга быў пазбаўлены нават права называцца народам,— гэта ж так натуральна для маладой літаратуры. З таго ж імкнення нарадзілася задума выдатнай трылогіі Я. Коласа «На ростанях» і грандыёзны план К. Чорнага: паказаць у серыі раманаў гісторыю сацыяльнага, нацыянальнага і духоўнага вызвалення і абнаўлення свайго народа.

Гэтую традыцыю прадоўжыў П. Пестрак, напісаўшы вялікі мастацкі летапіс рэвалюцыйнай барацьбы народу Заходняй Беларусі («Сустрэнемся на барыкадах»).

У рэчышчы гэтай традыцыі стварыў і М. Лынькоў «Векапомныя дні» — своеасаблівы мастацкі манумент гераізму народа-партызана.

«Векапомныя дні» М. Лынькова належаць да ліку твораў, у якіх аўтарскі жыццёвы вопыт і вопыт народны арганічна злітыя, да ліку твораў, у якіх важныя падзеі паказаны як бы праз успрыняцце самога народа, праз яго мастацкую ацэнку. Такія творы нечым вельмі блізкія да фальклорных, яны заўсёды аптымістычныя і жыццярадасныя па зместу, па фарбах.

Чым далей адыходзяць у мінулае «векапомныя дні» вялікіх пакут і нябачанай героікі Айчыннай вайны, усенароднай партызанскай барацьбы, тым больш узвышаная памяць аб тых днях: многае прымае формы легендарныя. Ды гэта і заканамерна: памяць народа ўтрымлівае самае галоўнае, пакідаючы ў баку выпадковае, другараднае. Вартасць гэтага рамана не столькі ў праўдзівасці дэталяў, бытавых падрабязнасцей, колькі ў шырыні і багацці агульнай карціны партызанскай вайны на Беларусі. На першым плане ў рамане іменна героіка ўсенароднай барацьбы з азвярэўшым фашызмам. Для рамана характэрны пафас народнага подзвіга, неперажнай стойкасці духа, перакананасці ў сваёй праўдзе, паэтызацыя партызанскай, народнай кемлівасці, перад якой смешна бездапаможнай выглядае вялізарная ваенная машына ворага. Вось у чым прырода і лынькоўскага гумару.

У творы, так задуманым і выкананым, часта зусім апраўданымі з'яўляюцца сітуацыі і вобразы, якія ў «звычайным» рамане могуць здацца недастаткова праўдзівымі, ідэалізаванымі, спрошчанымі. І ўсё ж пачуццё меры не павінна парушацца. А між тым героям рамана подзвіг даецца часам занадта ўжо лёгка.

Больш за ўсё шкодзіць раману, рыхліць яго кампазіцыю, прыдае асобным месцам твора адценне рытарычнасці празмерная схільнасць «пагаварыць», якой хварэюць усе героі твора. Калі для Чмаруцькі такое «пляценне славес» апраўдана (натура яго ўжо такая!), то ў адносінах да некаторых іншых персанажаў тут яўнае парушэнне мастацкай меры.

Але ў цэлым раман «Векапомныя дні» — значнае дасягненне сучаснай беларускай літаратуры.

Яшчэ нядаўна многія пісьменнікі, якія тут называліся, лічыліся малодшым пакаленнем. Сёння ў літаратуру прыходзіць новая пляяда празаікаў: І. Навуменка, А. Асіпенка, І. Пташнікаў, І. Сіўцоў, В. Адамчык, В. Быкаў і др. Маладыя празаікі прынеслі ў літаратуру жыццёвы вопыт і светаадчуванне таго пакалення, якое ў гады вайны яшчэ толькі развітвалася з дзяцінствам, якое, не скончыўшы сярэдняй школы, пераступіла парог суровай школы вайны. Адразу ж выклікалі вялікую цікавасць апавяданні І. Навуменкі («Хлопцы-равеснікі»), і не толькі таму, што жыццё ў іх малюецца ярка, добрай мовай, але перш за ўсё таму, што І. Навуменка гаворыць ад імя свайго пакалення. Не выпадковай і вельмі характэрнай з'яўляецца ўсмешка, з якой ён апавядае аб сваіх равесніках — некалькі просталінейных, наіўных, але сумленных і бескампрамісных у вялікім і малым. Так гаворыцца аб пераацэненым, але па-ранейшаму дарагім.

* * *

Рэвалюцыйны рух 1905-1917 гадоў, яркая і бурная эпоха будаўніцтва сацыялізма ўзнялі літаратуру беларускага народа на ўзровень развітых літаратур. Вялікая задача і абавязак кожнага новага пакалення пісьменнікаў не зніжаць, а павышаць гэты ўзровень.

# ТВОРЧАЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ І ГРАМАДЗЯНСКАЯ АКТЫЎНАСЦЬ

> Чалавеку ставіцца задача: знайсці сябе, свае суб'ектыўныя адносіны да жыцця, да людзей, да данага факта і ўвасобіць гэтыя адносіны ў свае формы і ў свае словы.
>
> М. Горкі.

Надпіс на адным з павільёнаў Сусветнай выстаўкі ў Бруселі абяцаў: «50 год сучаснага мастацтва». Нечаканае адчуванне ахоплівала нашага чалавека, калі ён трапляў у гэты будынак. Раней ён, вядома, ужо наведаў павільён навукі, падымаўся ў люстраныя шары атоміума, больш, як каля іншых экспанатаў, затрымаўся каля свайго «земляка» — спадарожніка Зямлі, дзе заўсёды «завозна», разам з турыстамі з Паўднёвай Амерыкі паахаў каля зубрападобнага мінскага самазвала, агледзеў цудоўны палац Чэхаславакіі, наштурхаўся і накруціўся да болю ў шыі ў амерыканскай цыркараме («кругавое» кіно), падзівіўся смеласці і экстравагантнасці французскіх спецыялістаў, якія ўраўнаважылі свой вялізны, падобны па экскаватар павільён па адным пункце апоры... Пры ўсёй рознасці і супярэчлівасці ўражанняў наведвальнік не мог не згадзіцца, што выстаўка ў цэлым апраўдвала свой дэвіз: «Чалавек і прагрэс» і нават у большай ступені адпавядала яму, чым гэтага, мабыць, хацелася б некаторым з яе арганізатараў.

Праўда, над адным з павільёнаў, які нагадваў пячору, над павільёнам Вацікана пагражальна ўздымаўся той самы крыж, якім багаслаўляліся цемрашальскія расправы над Джардано Бруно ранейшых вякоў. Але ж наведвальнік бачыў, што сімвалам выстаўкі 20-га стагоддзя быў не гэты чорны крыж, а атоміум.

Праўда, наведвальніку выстаўкі дакучліва прапаноўвалі паверыць у тое, што калонія ў наш час можа быць не вулканам, а мірнай букалічнай плантацыяй. Але вакол крыкліва-рэкламнага павільёна Бельгійскага Конга цесна было ад павільёнаў тых краін, якія зусім нядаўна былі такімі ж «мірнымі» калоніямі.

І хіба не аб сапраўдным прагрэсе чалавецтва сведчыла тое, што каля дзесяці павільёнаў Сусветнай выстаўкі дэманстравалі дасягненні краін, дзе прынцып «свабоднай» эксплуатацыі чалавека чалавекам заменены прынцыпам сацыялістычным?

Стоячы каля макета савецкага спадарожніка Зямлі, наведвальнік адчуваў: чалавецтва сапраўды выйшла на магістральны шлях прагрэсу.

І вось калі пасля ўсяго гэтага чалавек трапляў туды, дзе дэманстраваліся ўзоры мадэрнісцкага мастацтва за 50 год, ён не мог не разгубіцца на нейкі час. Быццам прывялі яго да крывога люстра і сказалі: «А ўсё ж вось хто ты, чалавек, нягледзячы на тое,

што пранік і ў атам і ў космас. Вось які адзінокі і бездапаможны ты ў свеце, які спрабуеш перарабіць, падпарадкаваць свайму розуму, і вось наколькі бездапаможны розум твой, чалавек, перад безданню падсвядомага».

Здавалася, што некаму вельмі не хацелася, каб чалавек, убачыўшы плёны свайго генія, яшчэ больш паверыў у сябе. Камусьці вельмі патрэбна было, каб усумніўся чалавек у тым, што варта імкнуцца наперад, ісці наперад.

І крыўдна падумалася аб мастаках, творы якіх выконваюць такую ганебную ролю на выстаўцы, прысвечанай чалавеку і прагрэсу.

Больш чым што іншае здзіўляла свежага чалавека, які трапляў на выстаўку найбольш характэрных твораў буржуазнага мастацтва, аднастайнасць гэтых твораў. Так, іменна аднастайнасць. Аказваецца, якраз таго бога, у ахвяру якому абстракцыяністы прынеслі ўсё, што чалавеку дарага, якраз разнастайнасці, індывідуальнасці і не было на гэтай выстаўцы. Здавалася, звар'яцелая фабрыка пачала раптам штампаваць аднолькава скажоныя безгаловыя фігуры людзей, брудныя палотны, і вось ужо паўстагоддзя працягвае гэтую механічную аперацыю. Аказваецца, вельмі ж невынаходлівыя гэтыя паны сучасныя мадэрністы пры іх гатоўнасці, ў імя арыгінальнасці, «суб'ектыўнасці» ўсё паставіць на галаву. Ды гэта і зразумела. Скажыце чалавеку, што ён можа маляваць што хоча і як хоча і толькі не павінен узнаўляць, паўтараць якасныя формы таго свету, які акружае яго — ці надоўга хопіць у мастака фантазіі? А мадэрністы вось ужо паўстагоддзя таўкуцца ў гэтай цёмнай пустаце. Як тут не напаўзаць палатну на палатно, як не паўтарацца?

Нямецкі паэт Люіс Фюрнберг, аўтар яркай лірыкафіласофскай паэмы «Брат безымянны», які некаторы час сам захапляўся мадэрнісцкай паэтыкай, выдатна раскрыў трагедыю адарванага ад народа мастака: вельмі многа клапоцячыся аб арыгінальнасці сваіх твораў і вельмі мала аб жыцці, што акружае яго, мастак перш за ўсё губляе сваё творчае аблічча.

Так я сотни масок примерял;
Отражались в зеркале гримасы,
Но свое лицо я потерял.

*Пераклад з нямецкай мовы Л. Гінзбурга.*

У павільёне «50 год сучаснага мастацтва» невялічкая зала была адведзена для твораў савецкага мастацтва. Тут экспанаваліся творы толькі некалькіх майстроў: А. Дайнэкі («Абарона Петраграда»), І. Бродскага («У. І. Ленін у Смольным»), С. Каненкава («Селянін»), А. Лакціёнава («Пісьмо з фронта»), і інш. Радасна было бачыць, як святлелі твары наведвальнікаў у зале, дзе карціны і

скульптуры вярталі чалавека да чалавека, да грамадства, да прыроды ва ўсіх яе фарбах і формах. І вось тут, прайшоўшы скрозь шэраг штампаваных хворай фантазіяй абстракцыяніосцкіх тварэнняў, ты пачынаеш асабліва бачыць, які шырокі дыяпазон творчых пошукаў у лепшых мастакоў сацыялістычнага рэалізма, як ярка праяўляецца творчая індывідуальнасць мастакоў, што не паддаліся буржуазнай модзе 20-га стагоддзя, зберaглі здаровую і непасрэдную цікаўнасць да чалавека, да таго свету, дзе ён жыве і які імкнецца для шчасця лепш «абсталяваць».

Гаворачы аб гэтым як аб факце радасным, усё ж задумваешся: а ці дастаткова мы ўмеем цаніць вартасці і перавагі савецкага мастацтва (у прыватнасці літаратуры) і ці заўсёды дастаткова сур'ёзна мы імкнёмся да таго, каб гэтыя вартасці і перавагі былі рэалізаваны ў поўную сілу? Крытыкі часта дэкларыруюць, што сацыялістычны рэалізм не толькі дапускае, але патрабуе багацця творчых індывідуальнасцей, разнастайнасці жанраў і стыляў, але вельмі рэдка мы напаўняем гэтыя дэкларацыі канкрэтным зместам. Чытаючы некаторыя артыкулы, у якіх закранаецца гэта праблема, міжволі задаеш пытанне: а ці не зводзіць наша крытыка мастацкую разнастайнасць да знешніх і хутчэй пабочных, так сказаць, «вытворных» якасцей стылю. Некаторыя крытыкі вельмі гучна і «шчодра» дазваляюць пісьменнікам: «пішыце ў любым жанры, у любой моўна-стылёвай манеры», і ўсур'ёз лічаць, што жанрам і моўнай манерай поўнасцю вычэрпваецца мастацкая разнастайнасць пісьменнікаў сацыялістычнага рэалізма. На шчасце, гэта зусім не так. Вось мы чытаем Шолахава, а потым Ляонава, Маякоўскага, а потым Твардоўскага, Танка, а потым. Куляшова ці Панчанку і адчуваем, што розніца паміж іх творамі не толькі ў жанры ці моўнай манеры, а ў нечым большым. Тое, што ўсё гэта пісьменнікі адной ідэалогіі — камуністычнай, зусім не перашкаджае ім быць вельмі рознымі ў думках аб жыцці, у складзе пачуццяў, кожны з гэтых мастакоў — першаадкрывальнік нейкай зусім новай сферы ў жыцці грамадства, першаадкрывальнік новых сацыяльна-псіхалагічных тыпаў. Ворагі марксізма і савецкай літаратуры сцвярджаюць, што дыялектычны метад звязвае думку і талент мастака, тады як на самай справе марксізм надзвычай абвастрае погляд мастака, дазваляе яму пранікаць у такія глыбіні грамадскага жыцця, чалавечай псіхалогіі, дзе ніхто яшчэ «не пабываў». Вось чаму савецкая літаратура ёсць і павінна быць (задача крытыкі змагацца за гэта) літаратурай першаадкрыццяў.

Выдатны марксісцкі крытык А. В. Луначарскі пісаў: «Дрэнны той мастак, які сваімі творамі ілюструе ўжо выпрацаваныя палажэнні нашай праграмы. Мастак каштоўны якраз тым, што ён

узнімае навіну, што ён усёй інтуіцыяй пранікае ў галіну, у якую звычайна цяжка пранікнуць статыстыцы і логіцы»[1]

Такім чынам, мастацкае багацце літаратуры нельга вымерваць толькі разнастайнасцю і арыгінальнасцю жанраў ці моўных манер. Стылёвае багацце і жанравая разнастайнасць — усё гэта незвычайна важна, калі звязана з багаццем самога зместу літаратуры. Але хіба не прыходзіцца нам чытаць раманаў быццам бы і розных па моўна-стылёвай манеры (адны з іх напісаны «паэтычнай» прозай, другія — падкрэслена «эпічнай») і ўсё ж аднолькава ардынарных па думках, не арыгінальных па зместу, не глыбокіх па пачуццю.

Толькі мастак, які адкрывае нешта новае ў жыцці, у чалавеку, варты таго, каб яго называць творчай індывідуальнасцю. Ілюстрацыйная літаратура, у якія б пышныя моўныя ці жанравыя адзенні яна ні ўбіралася, заўсёды застаецца аднастайнай у мастацкіх адносінах. Вось чаму змаганне за мастацкае багацце нашай літаратуры — гэта змаганне за літаратуру першаадкрыццяў, супраць шэрай ілюстрацыйнасці.

«Ён у нас арыгінальны, бо мысліць»,— сказаў Пушкін пра паэта Баратынскага, бачачы арыгінальнасць у здольнасці мастака мець аб усім сваё меркаванне, асабістыя адносіны да ўсяго.

Леў Талстой пісаў: «Па сутнасці, калі мы чытаем ці сузіраем мастацкі твор новага аўтара, галоўнае пытанне, якое ўзнікае ў нашай душы, заўсёды такое: «А ну, што ты за чалавек? І чым адрозніваешся ад усіх людзей, якіх я ведаю, і што можаш мне сказаць новага аб тым, як трэба глядзець на наша жыццё?» Што б ні адлюстроўваў мастак: святых, бандзітаў, цароў, слуг,— мы шукаем і бачым толькі душу самога мастака. Калі ж гэта стары, ужо знаёмы пісьменнік, то пытанне ўжо не ў тым, хто ты такі, «а што можаш ты сказаць мне яшчэ новае? З якога новага боку цяпер ты асветліш жыццё?» І таму пісьменнік, які не мае выразнага, пэўнага і новага погляду на свет, і тым больш той, які лічыць, што гэта нават не патрэбна, не можа даць мастацкага твора. Ён можа многа і прыгожа пісаць, але мастацкага твора не будзе».

Сярод новых твораў усесаюзнай літаратуры, у прыватнасці тых, якія прысвечаны рэвалюцыйнай гісторыі савецкага народа і вяртаюць нас да часоў грамадзянскай вайны і першых год станаўлення Савецкай улады, вылучаюцца, сталі падзеяй у нашым грамадскім і літаратурным жыцці творы, у якіх не новая ў савецкай літаратуры тэма раскрываецца ўдумліва, страсна, сапраўды па-новаму. Развіваючы лепшыя гуманістычныя традыцыі савецкай літаратуры ва ўмовах, калі капіталізм і яго натуральны «спадарож-

[1] А. В. Луначарский. Статьи о литературе, Гослитиздат. 1957, стар. 110

нік» вайна пагражаюць самому існаванню чалавека на зямлі і калі сацыялізм, камунізм стаў сінонімам жыцця і будучыні для мільёнаў людзей, у гэтых умовах найбольш чулыя да подыху сучаснасці пісьменнікі раскрываюць іменна гуманістычны змест і сэнс Ленінскага Кастрычніка, гуманістычны, жыццёва важны для лёсу чалавецтва сэнс дзейнасці Камуністычнай партыі.

Якраз такое па-сучаснаму абвостранае адчуванне і разуменне гуманістычнасці ідэй, мэт і спраў рэвалюцыйнага народа з'яўляецца пафасам рамана М. Стэльмаха «Кроў людская — не вадзіца», складае яго «філасофію».

Гэта — раман аб чалавечым і народным змесце сацыялістычнай рэвалюцыі. Працоўны народ узняўся супроць векавой несправядлівасці, вярнуў сабе тое, што павінна належаць яму па праву: мір, волю, зямлю. Але буржуазія ўсіх краін паспрабавала адабраць усё гэта зноў: і тады ракою палілася «кроў людская». А яна, кроў людская — «не бязродная вадзіца — тая бывае і на воблачку, і на траўцы, і ў возеры, і ў калодзежы, а кроў ёсць толькі на зямлі, яна — жыццё бацькоў і дзяцей, пяшчотны дзявочы румянец і смелы бляск юнацкіх вачэй, яна — подзвіг воіна і пяшчотная ўсмешка дзіцяці».

Героі рамана «Кроў людская — не вадзіца» Мірашнічэнка, Цімафей Гарыцвет — людзі працоўнай маралі, народнага светаадчування, іх п'яніць пах зямлі, рабочага поту. Людзі гэтыя жорстка, не на жыццё, а на смерць змагаюцца з крывавай пятлюраўшчынай, з кулакамі, але пры гэтым яны застаюцца глыбока чалавечнымі, справядлівымі, бо такой з'яўляецца «іх» рэвалюцыя. Вельмі чужым і шкодна непатрэбным выглядае сярод гэтых сапраўдных «байцоў рэвалюцыі» Кульніцкі — старшыня новабугаўскага камбеда. Кульніцкі — кар'ерыст і пазёр, «увесь, як у панцыр, зацiснуты ў чорную скуру». («Вось такімі і малююць ворагі камуністаў»,— думае пра яго Мірашнічэнка). Чалавек гэты ігнаруе інтарэсы «чалавека з масы», скажае сапраўдную волю, народны, гуманістычны сэнс сацыялістычнай рэвалюцыі — і ўсё гэта прыкрываючыся гучнымі фразамі аб яе «вышэйшых інтарэсах», быццам бы не зразумелых простым людзям.

Вось так, па-новаму, з улікам усяго перажытага і зробленага за апошнія дзесяцігоддзі, расказаў і Павел Нілін у аповесці «Жорсткасць» аб 20-х гадах. На гістарычным матэрыяле П. Нілін уздымае маральна-этычныя праблемы сённяшняга дня, якія па-сапраўднаму хвалююць самога пісьменніка.

Першыя гады нэпа. У вельмі будзённых абставінах маленькага сібірскага гарадка працуюць работнікі крымінальнага вышуку — героі аповесці «Жорсткасць». Барацьба ідзе не толькі з узброенымі бандамі, але і з прадажнасцю, спекуляцыяй, з самім

«маральным кодэксам» буржуазнага свету. У гэтых умовах і фармуецца малады работнік крымінальнага вышуку Венька Малышаў, асноўная рыса характару якога — незвычайная душэўная чысціня, бескампрамісная сумленнасць і прынцыповасць. Герой аповесці — сапраўдны рыцар рэвалюцыйнай законнасці, салдат Дзяржынскага. Гэты чалавек адчувае сябе прадстаўніком вышэйшай маралі — рэвалюцыйнай, вышэйшай справядлівасці — рэвалюцыйнай; таму ў ім столькі непрымірымасці да маральных кампрамісаў, да чэрствасці, кар'ерызму, да ўсяго, што можа кінуць цень на святую справу, якой ён служыць. Выключную душэўную сумленнасць Венькі Малышава адчуў нават бандыт Лазар Баукін, адчуў і пацягнуўся, як на аганёк, да Венькі, якога перад гэтым ледзь не забіў. Абуджаючы ў Баукіну чалавека, працаўніка, дапамагаючы яму адчуць справядлівасць той справы, супраць якой цёмны сібірак з такой тупой заўзятасцю змагаўся, Венька Малышаў паступова ператварае Лазара Баукіна з ворага ў саюзніка. вельмі патрэбнага для справы. З дапамогай Лазара Баукіна ўдаецца знішчыць банду. Але калі ўсё было зроблена, чалавек, якому трэба было поспех справы прыпісаць сабе, расстраляў і Лазара Баукіна. Як і Кульніцкі ў рамане М. Стэльмаха, кар'ерыст гэты прыкрывае сваю несумленнасць меркаваннямі «вышэйшай» палітыкі, быццам бы незразумелай Веньку Малышаву. Але Венька добра разумее, што рэвалюцыйная справа, якой ён служыць, патрабуе чысціні матываў, а тут матывы былі эгаістычныя, кар'ерысцкія. На Веньку, на яго сумленне лёг невымерны цяжар: што пра яго падумаў Лазар Баукін у свае апошнія хвіліны, мабыць, палічыў, што з ім толькі гулялі ў чалавечнасць, справядлівасць? Той аганёк веры ў рэвалюцыйную справу, які з такой цяжкасцю распальваў Венька ў гэтым чалавеку, груба растаптала нага дэмагога. А тут яшчэ пашляк Узялкоў («паляўнічы за рамантыкай») умяшаўся ў інтымныя адносіны Венькі з каханай дзяўчынай. Венька Малышаў страляецца.

Нягледзячы на трагічную развязку, пафас аповесці аптымістычны, сцвярджальны. Усім творам пісьменнік як бы гаворыць: такіх светлых душой, сумленнем людзей, як Венька Малышаў, фарміруе толькі высокая, народная, святая справа. У гэтым чалавеку, як сонца ў кроплі вады, відаць чалавечнасць і чысціня самой рэвалюцыі. Праўда, герой аповесці не знайшоў у сабе сілы працягваць барацьбу, але рэвалюцыя, якой ён служыў, пойдзе далей, сцвярджаючы праз новых і новых Малышавых сваю сілу, сваю праўду, сваю чысціню.

Праўдзіва, без усякай мадэрнізацыі апавядаючы аб 20-х гадах, аўтар аповесці «Жорсткасць» застаецца ў сваім творы чалавекам 50-х гадоў. Пісьменніка востра хвалюе тое, чым жыве яго сучаснік, сама сучаснасць падказала чуламу да яе мастаку

новы пункт гледжання на ўжо не новы для нашай літаратуры жыццёвы матэрыял.

Іменна такія, і толькі такія творы, у якіх ёсць пафас першаадкрыцця, па-сапраўднаму ўзбагачаюць савецкую мастацкую культуру.

Спрэчкі вакол рамана М. Шолахава «Ціхі Дон», якія зноў разгарэліся ў апошні час (гл. «Вопросы литературы» № 12 за 1958 г.), лішні раз сведчаць, што творы, у якіх жыццё адлюстравана ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці, у якіх мастак выступае як першаадкрывальнік, а не ілюстратар, такія творы ніколі не перастаюць хваляваць чытача. Чым паўней выяўляецца, раскрываецца для мільёнаў людзей гуманістычны змест і агульначалавечае значэнне сацыялістычнай рэвалюцыі, тым больш раскрываецца незвычайна глыбокі жыццёвы змест рамана М. Шолахава.

Але думаецца, што наша літаратуразнаўства яшчэ па сапраўднаму не адчувае, не заўважае ўсёй глыбіні шолахаўскага пранікнення ў гуманістычны сэнс рэвалюцыі.

Даследчыкі рамана «Ціхі Дон» вельмі часта глядзяць на падзеі рэвалюцыі вачыма асобных герояў М. Шолахава: Штокмана, Міхаіла Кашавога.

А між тым погляд самога аўтара рамана ахоплівае гарызонты намнога шырэйшыя, чым тыя, што адкрываліся героям яго твора, захопленым бурлівым вірам падзей. Міхаіл Кашавой не мог узважваць усе «за» і «супраць», калі паўставала пытанне аб такіх «контрыках», як Грыгорый Мелехаў. У аўтара ёсць магчымасць рабіць гэта, у тым і задача яго як мастака. І аўтар умее зразумець і пашкадаваць сумленнага і шматпакутнага Грыгорыя там, дзе Мішка Кашавой гатовы адштурхнуць яго, «адлучыць» ад усяго, што заваёвана ў крывавай рубцы з такімі, як ён, Грыгорый Мелехаў. М. Шолахаў зусім не абсалютызуе той, магчыма, неабходнай у канкрэтных умовах жорсткасці, з якой паставіўся да Грыгорыя Мелехава Міхаіл Кашавой пры апошняй сустрэчы, калі Грыгорый думаў толькі аб адным: «зажыць, як усе». Самі абставіны, умовы нябачана жорсткай класавай барацьбы рабілі Кашавога непрымірымым у адносінах да Грыгорыя Мелехава. І гэта разумее і паказвае аўтар рамана. Але ён пакідае за сабой права разумець і Грыгорыя Мелехава, яго трагедыю, бо ён ведае, што самая чалавечная з рэвалюцый рабілася і ў імя такіх, як Грыгорый Мелехаў, нягледзячы на ўсе яго жыццёвыя памылкі і нават злачынствы перад рэвалюцыяй.

Іменна дзякуючы такому шырокаму гуманістычнаму пафасу раман «Ціхі Дон» сёння гучыць, здаецца, нават больш надзённа, чым у час яго напісання. І думаецца, што раман гэты будзе тым

больш сугучны часу, нашаму погляду на чалавека, чым далей пройдзе чалавецтва па шляху да камунізме.

* * *

Што ж робіць пісьменніка сапраўднай творчай індывідуальнасцю, першаадкрывальнікам новых канфліктаў і тыпаў, першаадкрывальнікам новай моўнай стыхіі (бо сапраўдны мастак як бы адкрывае нанава і самую мову, дакладней, ён раскрывае яшчэ нікім не выяўленыя магчымасці роднай мовы)? Без таленту, без прыродных задаткаў сапраўднага мастака, вядома, не будзе. Але справа не толькі ў прыродных дадзеных. Талент не раскрыецца ў поўную сілу, пакуль пісьменнік не адчуе патрэбы ўмяшацца, сваім словам у жыццё; **пісьменнік становіцца творчай індывідуальнасцю не раней, чым ён адчуе сябе грамадзянінам**. Толькі ў тым выпадку, калі ў чалавеку абуджаецца вострае пачуццё асабістай адказнасці за ўсё, што адбываецца навокал, у жыцці, толькі тады проста таленавітая асоба ператвараецца ў сапраўды творчую індывідуальнасць: у мастака паяўляецца свой, змястоўны погляд на свет, узнікаюць свае адносіны да жыцця, а тым самым і свой стыль.

Леў Талстой пісаў, думаючы не больш не менш, як аб выратаванні чалавецтва. І няхай ён памыляўся ў вызначэнні шляхоў і сродкаў гэтага «выратавання», але іменна з такой і толькі з такой вялікай асабістай задачы магла вырасці творчасць, што з’явілася крокам наперад у мастацкім развіцці ўсяго чалавецтва.

Марксісцка-ленінскі светапогляд садзейнічае ўзмацненню ў мастаку гэтага плённага пачуцця асабістай адказнасці за развіццё падзей у свеце, за лёс людзей, таму што марксізм нараджае навуковую перакананасць у магчымасці пераўтварэння грамадства. Хіба не на гэтых страсных, асабістых, бескампрамісных адносінах да жыцця, да рэвалюцыі, да ўсяго, што рабілася ў свеце, трымаецца паэзія Маякоўскага? І хіба нават буйных нашых пісьменнікаў не насцігала ілюстрацыйная немач, калі асабістыя адносіны да рэчаіснасці падмяняліся пасіўным прыняццем фактаў і з’яў жыцця, калі знікала ці аслаблялася пачуццё партыйнай адказнасці ў пісьменніка. Па-сапраўднаму партыйным з’яўляецца толькі тое мастацтва, якое вырастае са страснай камуністычнай перакананасці мастака, з гатоўнасці яго не на словах, а на справе ахвяраваць усім у імя перамогі ідэалаў новага грамадства.

«Для такога мастака,— гаварыў М. С. Хрушчоў у сваім выступленні «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа»,— пытанне аб падыходзе да з’яў рэчаіснасці не выклікае сумнення, яму не патрэбна прыстасоўвацца, прымушаць сябе,

праўдзівае асвятленне жыцця з пазіцый камуністычнай партыйнасці з'яўляецца патрэбнасцю яго душы...»

Вось на якіх асабістых адносінах да рэчаіснасці асноўваецца партыйнасць нашага мастацтва. Калі мы чытаем раманы «Кроў людская — не вадзіца» М. Стэльмаха, «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай, «замежныя цыклы» вершаў М. Танка і П. Панчанкі, мы адчуваем: партыйнасць тут сапраўды — голас сэрца. Іменна з такога актыўнага, асабістага стаўлення да жыцця і вырастае мастак са сваім творчым абліччам, пісьменнік са сваім стылем, бо стыль — гэта не толькі своеасаблівасць мовы пісьменніка, але і пафас яго ідэйных і маральных пераконанняў, глыбіня думкі, сіла пачуцця.

Партыя падкрэслівае, што літаратура наша павінна быць вядучай і па мастацкаму багаццю. Барацьба за мастацкае багацце, за мастацка-стылёвую яркасць нашай літаратуры пачынаецца з барацьбы за глыбока асабістыя, страсна партыйныя, грамадзянскія адносіны кожнага пісьменніка да жыцця.

А ці заўсёды ёсць гэтыя свае, актыўныя адносіны, партыйнае стаўленне да жыцця ў нашай літаратуры? Нават у творах аб сучаснасці далёка не заўсёды. Хіба не ў гэтым адна з прычын таго, што шмат яшчэ ў нас паяўляецца твораў халодна ілюстрацыйных, анемічных па стылю?

Часам бывае так, што мы ўжо ведаем пісьменніка як даволі яркую творчую індывідуальнасць, а вось чытаем новы твор яго і заўважаем, што індывідуальнасць пісьменніка як бы выцвіла, пачала губляцца. І мы не памылімся, калі прычыну гэтаму пачнём шукаць у тым. што не загарэўся пісьменнік страснай грамадзянскай думкай, пішучы свой твор, бо пачаў размову аб тым, што яму па сутнасці абыякава. Часам мы і мастацкую тэхніку адчуваем у такім творы, добрую рыфму, бачым асобныя ўдалыя знаходкі, але мастацкага твора няма, бо грамадзянін, чалавек у ім адсутнічае. А між тым «без чалавека (калі ў аўтары няма «чалавека») вершы — толькі пара»,— адзначаў яшчэ А. Блок.

Калі мы чытаем «Рэха ў гарах», «Братэрства» — першыя пасляваенныя аповесці Т. Хадкевіча, у якіх апавядаецца аб барацьбе і інтэрнацыянальным братэрстве ўцекачоў з фашысцкай няволі, мы бачым усяго Хадкевіча, бо ён піша аб тым, што закранула вельмі многія струны яго чалавечай істоты. Гэтага не скажаш пра яго апошні раман «Даль палявая». У гэтым творы выявіліся недахопы, характэрныя і для некаторых другіх нашых твораў аб сучаснасці. Само жыццё зрабіла вельмі суровую праверку, экзамен раману «Даль палявая». Не паспеў аўтар надрукаваць часопісны варыянт рамана аб справах і людзях МТС і калгасаў, як паявіліся вядомыя рашэнні партыі, у якіх былі ўскрыты сур'ёзныя супярэчнасці ў гэтых галінах гаспадаркі і жыцця. Вядома, зусім

недарэчна, калі б хто-небудзь пачаў разважаць так: ліквідавалі МТС — устарэў і твор аб людзях, якія змагаліся за яе ўмацаванне. Аб'ект літаратуры — перш за ўсё людзі, і калі мастак здолеў паказаць людзей, намаляваць рэальныя чалавечыя характары, здолеў узняць навіну, убачыць рэальныя жыццёвыя канфлікты, твор не ўстарэе. У адносінах да рамана «Даль палявая» пытанне паўстае так: а наколькі глыбока пранік аўтар у жыццё, душу, пачуцці людзей, аб якіх ён некалькі год пісаў вялікі твор, ці заўважыў ён тыя супярэчнасці і працэсы, што вызначыліся ў жыцці калгаснай вёскі і МТС?

На гэта можна сказаць: «аўтар пісаў перш за ўсё аб людзях, а потым ужо аб гаспадарчых справах». Але ж сам Т. Хадкевіч не аддзяляе людзей ад іх спраў — і зусім правільна. Бяда ў тым, аднак, што ён не заўважыў **галоўных**, глыбінных канфліктаў, якія вызначалі і гаспадарчыя справы і «душэўную гаспадарку» людзей МТС і калгаса, а сканцэнтраваў увагу на тым, што ляжала на паверхні.

З дапамогай камбінацыі не вельмі яркіх вобразаў, адабраных па адзнаках прафесіі і пасады (трактарыст, дырэктар МТС, парторг, кадравы работнік, журналіст і г. д ), пісьменнік праілюстраваў гатовы тэзіс аб неабходнасці ўмацавання МТС, не зрабіўшы ніякіх намаганняў глыбей пранікнуць у патрэбы жыцця, у душы, сумненні, патрэбы людзей, аб якіх ён узяўся пісаць. Пісьменнік не стаў па-сапраўднаму блізка да людзей, аб якіх ён захацеў расказаць. Іх справы, клопаты, думы не зрабіліся яго справамі і думамі — вось чаму ілюстрацыйная апісальнасць пануе ў гэтым творы.

Велізарнае шчасце для літаратуры мець ідэал такі блізкі да свайго здзяйснення, як наш ідэал — камуністычны. Часам гэтага шчасця — мець ідэал, людзі не заўважаюць, як не заўважаюць яны, што дыхаюць паветрам, пакуль яго хапае. Але тыя, у каго гэтага «паветра» няма, добра гэта адчуваюць. Адзін галандскі буржуазны журналіст шчыра пазайздросціў у сваёй газеце інданезійцам, на жабрацтве якіх багацела галандская буржуазія. Мы, пісаў гэты журналіст, думаем аб тым, як купіць новы тэлевізар ці машыну, інданезійцы — аб тым, як накарміць дзяцей. Але яны шчаслівейшыя за нас: у іх ёсць ідэя, што аб'ядноўвае іх, асвятляе ім заўтрашні дзень.

Праўда, журналіст гэты не захацеў сказаць, што і ў Галандыі ёсць людзі, якія маюць ідэю, веру ў заўтрашні дзень (свядомы пралетарыят). Але настроі і светаадчуванне свайго, буржуазнага асяроддзя ён выказаў вельмі дакладна.

Мы не збіраемся адвяргаць значэння матэрыяльнага дабрабыту, у нас ён будзе вышэйшы, чым у любой капіталістычнай

краіне, але ў нас ёсць тое, чаго ніколі ўжо не будзе ў грамадства, якое з'яўляецца ўчарашнім днём гісторыі: ідэал, вера ў будучыню.

Літаратура, у якой ёсць такі велічны, такі народны, такі гуманістычны ідэал, якім з'яўляецца ідэал камуністычны, павінна быць і не можа не быць літаратурай яркіх грамадскіх страсцей, высокага партыйнага, гуманістычнага накалу, а тым самым і літаратурай найбольш багатай і ў мастацкіх адносінах.

**Змест**



На белорусском языке
Александр Михайлович Адамович

Культура творчества

Государственное издательство БССР
Минск 1959
Рэдактар Л. Арабей
Мастак А. Лісічнікаў
Мастацкі рэдактар Л. Прагін
Тэхнічны рэдактар В. Харэўскі
Карэктар М. Барсукова